



# Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12+

13 ліпеня 2018 года №28 (1211)


# Зарабіла 1000 доляраў на алімпіядзе па кітайскай мове

Пра Насцю Саванец з Ашмянаў, якая атрымала 100, 100 і 97 балаў па ЦТ, і пра 100-бальніцу па гісторыі Беларусі Маргарыту Кубліцкую з Маладзечна чытайце на старонцы 5

Артыкул пра Дар'ю Шэйбак чытайце на старонцы 2

## Якія парушэнні знайшоў дзяржкантроль у жыллёвым фондзе Валожынскага раёна



старонка 5





## «Жэрці ды танцаваць на костках сваіх закатаваных суайчыннікаў проста нельга». Віляйчук расказвае, чаму далучыўся да сёлетняй абароны Курапатаў

старонка 20


ISSN 1991–7155





Адсканууйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



### Пройдуць раскопкі крывіцкіх курганоў

МЯДЗЕЛ

Ад 1 да 15 жніўня на Мядзельшчыне пройдзе археалагічны летнік Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры «Наўры-2018».

Група маладых аматараў гісторыі і археалогіі правядзе раскопкі крывіцкіх курганоў канца першага – пачатку другога тысячагоддзяў нашай эры. Навуковы кіраўнік летніка – кандыдат гістарычных навук дацэнт **Мікалай Плавінскі.**

У летніку ўдзельнікаў чакаюць цікавыя сустрэчы з беларускімі гісторыкамі, музыкамі, творцамі, паведамляюць арганізатары.

### У Астраўцы адчыняць новы дзіцячы садок

АСТРАВЕЦ

Установа разлічаная на 190 месцаў, паведамляе «Гродзенская праўда».

Адкрыццё садка прызначанае на 20 ліпеня.

У трэцім мікрараёне запланаванае будаўніцтва яшчэ аднаго садка на 230 месцаў. У другім мікраёне пачынаюць будаўніцтва школы на 860 месцаў.

У другім паўгоддзі ў райцэнтры адчыняць фізкультурна-аздараўленчы комплекс з басейнам, спартыўнай і трэнажорнай заламі, саўнай.

Да канца года павінны закончыць работы на будоўлі стадыёна ў лесе больш чым на тысячу месцаў.

### Два дырэктары школ змяніліся ў Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

Прызначэнні пацвердзілі ў прыёмнай гімназіі №7 і новы дырэктар 11-й школы.

**Вольга Вярховіч** прызначаная на пасаду дырэктара гімназіі №7.

У сярэдняй школе №11 новым дырэктарам стала **Анжаліка Хандзецкая.**

Абедзве прыступілі да абавязкаў 11 чэрвеня. І абедзве выкладаюць хімію.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота ostrovets.by

Астравец расце, таму садкі і школы – самыя запатрабаваныя навабуды.

## Год да пенсіі, а не прайшоў медагляд

**З пытаннем аб працы ў рэдакцыю звярнуўся чытач.**

– Адпрацаваў больш за 30 год на прадпрыемстве, ужо пра пенсію мару. Адправілі на медагляд. Не прайшоў па слыху. Вушы сапсаваў якраз у цэху гэтага прадпрыемства. На якую іншую працу мяне возьмуць у такім узросце? І што, столькі адпрацаваўшы, усё здароўе сюды паклаўшы, мяне проста выкінуць?

Расказаць, як дзейнічаць чытачу, мы папрасілі старшыню Вілейскага раённага аб'яднання аб'яднання арганізацый прафсаюзаў **Вольгу Шляпо:**

– У гэтай сітуацыі ўзнікаюць дадатковыя пытанні. У прыватнасці, трэба ўважліва глядзець, што напісана ў медыцынскім заключэнні. Наймальнік абавязаны выканаць прадпісанні МРЭК. Калі ў заключэнні ёсць рэкамендацыі дактароў, наймальнік абавязаны прапанаваць іншую работу з улікам рэкамендацый дактароў.

Работніку варта звярнуцца па кансультацыю да прафсаюзных юрыстаў.

**Аддзел інфармацыі.**

ТЭМА НУМАРА



Фота з асабістага архіва Дар'і ШЭЙБАК.

Цяпер Даша марыць асвоіць кітайскую медыцыну і з'ездзіць у Кітай.

# Зарабіла 1000 долараў на алімпіядзе па кітайскай мове

МАЛАДЗЕЧНА

**Выпускніца гімназіі №6 Дар'я Шэйбак заняла 7-е месца на рэспубліканскай алімпіядзе па кітайскай мове і атрымала прызавы фонд памерам у тысячу долараў.**

### Як трапіла на алімпіяду па кітайскай мове

У гэтым годзе Дар'і пашчасціла абараняць гонар Мінскай вобласці на абласным і заключным рэспубліканскім этапе алімпіяды. Настаўніца **Ліна Сылікэ** дапамагала вучаніцы рыхтавацца.

Працаваць даводзілася вельмі шмат. Не толькі падрыхтоўка, але і сам удзел у алімпіядзе быў няпросты. Сапернічаць прыйшлося з носьбітамі мовы. Многія ўдзельнікі вывучалі мову з першага класа па агульнаадукацыйнай праграме. Былі і тыя, хто вывучаў кітайскую ў Інстытуце Канфуцыя. Але ўсе цяжкасці дапамагала перадольваць падтрымка з боку гімназіі і бацькоў.

На ўрачыстай цырымоніі ўзнагароджання прысутнічаў пасол Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь спадар **Цуй Цымін**. Ён уручыў узнагароды 30 лаўрэатам алімпіяды. Цырымонія праходзіла ў кітайскіх традыцыях.

> **– Мерапрыемствы такога маштабу аб'ядноўваюць нашы культуры. Мы становімся больш адкрытымі Кітаю, а Кітай становіцца больш адкрытым для нас, – падзялілася ўражаннямі Дар'я.**

### Захапленне кітайскай мовай

Выпускніца захаплялася замежнымі мовамі заўсёды. У гэтым ёй дапамагала родная школа. З першага класа вывучала англійскую, затым наведвала факультатывы па польскай, французскай, іспанскай мовах. Самастойна пачала вучыць японскую. Калі ў гімназію прыйшоў настаўнік **Валянцін Васільевіч Івашанка**, дзяўчына захапілася кітайскай мовай і культурай. Дар'я вывучае яе ўжо на працягу чатырох гадоў.

Першы год дзяўчына займалася толькі з Валянцінам Васільевічам. Далей на працягу трох гадоў выкладчыкамі былі валанцёры з Інстытута Канфуцыя. Вучні паспявалі пасябраваць з імі так, што кожны год усе расставаліся са слязамі на вачах.

### Развіццё мовы Кітая ў гімназіі

Многія дзеці з розных школ горада зацікавіліся кітайскай мовай. Больш за 150 вучняў сталі наведваць факультатывы, якія праводзілі ў гімназіі №6. У гімназіі ладзяць мерапрыемствы, прысвечаныя вывучэнню культуры Кітая, традыцый і свят. Асаблівую цікавасць вучняў і іх бацькоў выклікала «Свята Кітая». Сумесна з валанцёрамі вучні арганізоўвалі цырымоніі чаявання, рыхтавалі стравы нацыянальнай кухні Кітая. Дзеці нават знайшлі пераплецене кітайскай і беларускай культур падчас стварэння папяровых вырабаў да навагодняга свята – тэхніка і сутнасць працэсу падобныя да беларускай выцінанкі.

Дар'я прызналася: калі пачала вывучаць кітайскую мову, нават не думала аб яе сённяшняй прэстыжнасці. Яна была цікавая як цалкам іншая, не падобная на ўсе еўрапейскія мовы.

> **– Я люблю ў кітайскай мове ўсё: ад лексічнага значэння і іерогліфа да цэлых сказаў. Падабаюцца эпітэты, метафары... Вылучыць нешта адно немагчыма, – кажа выпускніца.**

Дзяўчына плануе атрымаць медыцынскую адукацыю. Яна хоча асвоіць кітайскую медыцыну. Адна з галоўных мар Дар'і – падарожжа ў Кітай. Яна хоча не толькі папрактыкавацца ў мове, але і ўбачыць усю прыгажосць Кітая на свае вочы. Асабліва самыя знакамітыя славутасці: Вялікую кітайскую сцяну, Палац імператара, возера Ханьчжоў, горы ў правінцыі Анхой.

**Марыя КРУПСКАЯ.**



Ілюстрацыі cdn.wallpapersafari.com, cracksinwall.com.

Дом, дзе няма гаспадара.

# Гадамі чакаюць адсялення

## Знайшлі парушэнні ў жыллёвым фондзе

ВАЛОЖЫН

**Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю правёў праверку жыллёвага камерцыйнага фонду Валожынскага раёна. У выніку знайшлі шэраг парушэнняў.**

У 2014 годзе ў фонд запланавалі перавесці з камунальнай формы ўласнасці ў камерцыйную 439 раённых і 7 абласных будынкаў. Але там апынуліся толькі 200 з іх.

Чатыры гады таму Валожынскі райвыканкам памылкова ўключыў у склад камерцыйнага жылля восем прыватызаваных памяшканняў. А летась паўторна далучыў два будынкі.

Памяшканням патрэбны рамонт, іншыя з іх даўвядзецца знесці. Ад агульнай колькасці жыллёвага фонду засталіся незаселенымі 49 будынкаў, з іх 28 – таму, што не адпавядаюць па санітарных і тэхнічных умовах.

Да прыкладу, дзве кватэры, якія знаходзяцца на балансе філіяла КУП «Мінскаблдарбуд» – ДРБУ-167, не заселеныя з 1988 і 1990 гадоў. А жыхары сямі дамоў ужо некалькі гадоў чакаюць адсялення, бо іх будынкі не адпавядаюць нормам.

Паводле закона, грошы, каб прывесці такія памяшканні ў належны стан, павінны паступаць ад карыстальнікаў камерцыйнага жылля. Але з-за нядбайнасці работнікі Валожынскага жылкамунгаса не пералічвалі ў бюджэт грошы за дзесяць памяшканняў. Маніторынг выявіў, што плацілі толькі чатыры з дзевяці арганізацый.

За парушэнні да дысцыплінарнай адказнасці прыцягнулі сем службовых асоб.

У дзяржаўны жыллёвы фонд вярнулі ўключыць 247 будынкаў камерцыйнага карыстання, якія раней належалі Валожынскаму раёну. А таксама выключыць восем прыватызаваных да 2014 года дамоў.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржаўнага кантролю.**

### У колькі ацэньваюць участкі на нарачанскіх азёрах

МЯДЗЕЛ

У Нацпарку «Нарачанскі» выставілі на продаж сем участкаў коштам ад пяці тысяч рублёў. Усе яны размешчаны ў маляўнічых месцах паблізу азёр.

Самы дарагі ўчастак знаходзіцца ў вёсцы Гатавічы. Зямельны надзел налічвае больш за 13 сотак і размешчаны паблізу сістэм газа- і электразабеспячэння і асфальтаваны дарогі. Пачатковая цана лота складае 27 тысяч рублёў.

За 20 тысяч рублёў выстаўлены на электронныя таргі ўчастак у 25 сотак у вёсцы Гірыны. Зямельны надзел размешчаны ў 2,5 кіламетра ад возера Нарач і ў 100 метрах ад возера Мястра.

За 20 тысяч рублёў выстаўлены на продаж і ўчастак 20 сотак у вёсцы Расохі. У Расохах можна купіць яшчэ адзін участак плошчай 18 сотак. Пачатковая цана на лот стартуе ад 12 тысяч рублёў.

Побач з возерам Баторына прадаюцца тры ўчасткі ў вёсках Шыкавічы, Азаркі-Дворышча і Азаркі-Пудавінка. Цэны на ўчасткі стартуюць ад 5 тысяч рублёў.

Электронныя таргі пройдуць 27 ліпеня.

**Паводле realt.by.**

### Медыкам у другім паўгоддзі падымуць зарплаты

Першы этап павышэння заработнай платы работнікам аховы здароўя плануецца ў другім паўгоддзі 2018 года. Такая інфармацыя размешчаная на сайце Міністэрства аховы здароўя, паведамляе БелТА.

Цяпер праводзіцца актыўная работа па падрыхтоўцы нарматыўнага прававога акта па гэтым пытанні. Плануецца павысіць зарплату медыцынскім і фармацэўтычным работнікам, а таксама медыцынскім фізікам, біёлагам і хімікам, якія ўдзельнічаюць разам з медработнікамі ў аказанні высокатэхналагічнай медыцынскай дапамогі.

Па даручэнні кіраўніка дзяржавы і ўрада Міністэрства аховы здароўя сумесна з Міністэрствам працы і сацыяльнай абароны і Міністэрствам фінансаў прапрацоўваюць пытанні паэтапнага павышэння аплаты працы медработнікам у 2018-2025 гадах. Памер зарплаты да 2025 года павінны павялічыцца ў два разы. Такім чынам, плануецца скарацiць існуючы разрыў паміж сярэдняй заработнай платай работнікаў аховы здароўя і ў цэлым па народнай гаспадарцы.

Па дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, за студзень-май сярэднямесячная зарплата ў ахове здароўя склала Br701,8, што на 22% менш, чым па народнай гаспадарцы (Br901,6).

**Паводле БелТА.**

### Распачалі паляванне на бакаса

Ад 14 ліпеня да 11 жніўня на тэрыторыі Беларусі адкрываюць сезон палявання на бакаса.

Паводле правілаў вядзення паляўнічай гаспадаркі, на яго палююць з ружжом і паляўнічымі сабакамі – выжламі, спаніэлямі, рэтрыверамі. Дазволена карыстацца гладкаствольнай паляўнічай стрэльбай і патронамі са шротам.

За незаконнае паляванне парушальніка чакае адміністрацыйная адказнасць. За шкоду навакольнаму асяроддзю больш за 100 базавых велічынь пагражае крымінальная адказнасць.

**Васіль ПАЎЛАЎ, старшы дзяржаўны інспектар Маладзечанскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 5.07 | 12.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1.9946 | **1.9693** |
| Еўра | 2.3235 | **2.3082** |
| Злоты, 10 | 5.2932 | **5.3264** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1524 | **3.1688** |
| Грыўня, 100 | 7.5424 | **7.5092** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 4.07 | 11.07 |
| Еўра | 2.3000/2.3250 | **2.3000/2.3200** |
| Долар ЗША | 1.9800/2.0050 | **1.9650/1.9800** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 4.07 | 11.07 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,68 | **18,68** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,13 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,10 | **4,20** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 13,00 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,10 | **1,20** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,60 | **1,70** |
| Алей «Залатая семачка», 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,50 | **1,50** |
| Агуркі, 1 кг | 1,00 | **0,95** |
| Баклажаны, 1 кг | 2,70 | **2,30** |
| Бульба, 1 кг | 1,20 | **1,10** |
| Буракі, 1 кг | 1,50 | **1,20** |
| Капуста, 1 кг | 0,75 | **0,65** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,20 | **1,50** |
| Морква, 1 кг | 2,50 | **2,00** |
| Памідоры, 1 кг | 1,85 | **2,20** |
| Перац, 1 кг | 2,70 | **2,20** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Абрыкосы, 1 кг | 3,20 | **3,30** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,95 | **2,80** |
| Бананы, 1 кг | 1,99 | **1,85** |
| Вінаград, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Гранаты, 1 кг | 7,00 | **–** |
| Грушы, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 3,20 | **2,50** |
| Дыня, 1 кг | 2,50 | **3,00** |
| Кавун, 1 кг | 1,50 | **1,20** |
| Ківі, 1 кг | 5,30 | **4,50** |
| Лімоны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,50 | **–** |
| Нектарыны, 1 кг | 3,90 | **3,50** |
| Чарэшня, 1 кг | 4,00 | **3,70** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,20 | **2,50** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Сала, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |

## Мінчанін згарэў на лецішчы

МАЛАДЗЕЧНА

8 ліпеня ў вёсцы Бортнікі падчас пажару загінуў чалавек.

Паведамленне аб загаранні дома паступіла вечарам.

Дом выкарыстоўвалі пад лецішча. У выніку пажару ён моцна пашкоджаны – выгараў знутры, дах знішчаны, сцены засталіся.

Выратавальнікі падчас тушэння агню знайшлі загінулага. Гэта 67-гадовы гаспадар з Мінска, пенсіянер.

Меркаваная прычына пажару – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры распальванні печы гаручай вадкасцю.

Катэгарычна забаронена ўжываць для распальвання печаў гаручыя і лёгкаўзгаральныя вадкасці. Калі пачаўся пажар, памятайце, што лёгкасамаўзгаральныя, гаручыя вадкасці, алей тушыць вадой нельга. Бензін, газа і таму падобныя рэчывы лягчэй вады, і пры спробе заліць іх будуць усплываць наверх. Яны не толькі не перастануць гарэць, але і расцякуцца ў бакі, павялічваючы плошчу пажару. У дадзеным выпадку выкарыстоўваць неабходна пясок ці зямлю, вільготныя кавалкі тканіны або шчыльнае адзенне, парашковы вогнетушыцель.

**Марына ГАНЧАРОВА, Маладзечанскі ГРАНС.**

## Гаспадар забіў госця

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося ноччу 7 ліпеня.

Знаёмыя сабраліся ў кватэры непрацуючага пенсіянера.

Пасля сумеснага распівання алкаголю гаспадар і госць пачалі біцца. Пасля гаспадар ударыў госця нажом у грудную клетку.

З колата-рэзанай ранай і чэрапна-мазгавой траўмай госця шпіталізавалі. У тую ж ноч ён памёр.

Раней гаспадар быў асуджаны за кіраванне машынай у стане алкагольнага ап'янення.

**УУС Мінаблвыканкама.**

## Прышпіліце дзяцей. ДАІ праводзіць акцыю «Дзіця – галоўны пасажыр!»

Ад 10 да 16 ліпеня Маладзечанская ДАІ праводзіць рэспубліканскую прафілактычную акцыю «Дзіця – галоўны пасажыр!».

Падчас яе супрацоўнікі інспекцыі створаць рэйдавыя групы. Узмоцняць кантроль за выкарыстаннем кіроўцамі дзіцячых утрымліваючых прылад. Калі заўважаць парушэнні патрабаванняў Правілаў, кіроўцаў прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці. Памер штрафу можа скласці да чатырох базавых велічынь (98 рублёў), за паўторнае парушэнне – да васьмі (196 рублёў).

Як тлумачаць інспектары ДАІ, асноўная прычына гібелі дзяцей-пасажыраў тая, што дарослыя ігнаруюць сродкі бяспекі пры перавозцы непаўнагадовых. Або перавозяць іх ва ўтрымліваючых прыладах, але не прышпільваюць рамянямі бяспекі.

Ад пачатку года на дарогах рэспублікі ў аварыях загінулі 12 непаўнагадовых, 176 – атрымалі раненні. На Маладзечаншчыне зарэгістравалі дзве аварыі з удзелам непаўнагадовых. Пацярпела адно дзіця.

**Марыя КРУПСКАЯ, паводле паведамлення Маладзечанскай дзяржаўтаінспекцыі.**

● УВАГА, ВЫШУК!

## Знік мужчына з Маладзечна

### Маладзечанскі райаддзел міліцыі шукае зніклага Алега Георгіевіча Агеева.

Нарадзіўся 25.05.1963 у Маладзечне, жыве па адрасе: Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 129, 60.

23 кастрычніка 2001 года паехаў на заробкі ў Расію, меркавана ў Маскву. Да гэтага часу месцазнаходжанне яго невядомае.

Прыкметы на момант знікнення: на выгляд 37 гадоў, рост каля 185-190 сантыметраў. Мажнага целаскладу, твар авальны, бледны, вочы блакітныя, нос увагнуты, звернуты, валасы прамыя, коратка падстрыжаны.

Пры сабе меў пашпарт і ваенны білет.

Калі хто ведае месцазнаходжанне Агеева, просім паведаміць па тэл.: 8 (0176) **74-96-83, 77-16-56,** 8 (029) **555-49-71** ці **102.**



# Былому намесніку дырэктара фірмы пагражае турма

МАЛАДЗЕЧНА

### Былы намеснік дырэктара таварыства з абмежаванай адказнасцю, прызнанага банкрутам, незаконна «вывеў» з прадпрыемства тры аўтамабілі і прадаў іх.



Адзін з аўтамабіляў, што фігуруе ў справе.

Работнікі Маладзечанскага міжраённага аддзела фінансавых расследаванняў устанавілі незаконнае адчужэнне маёмасці камерцыйнага прадпрыемства, якое да гэтага падало заяву аб прызнанні яго эканамічна неплацежаздольным – банкрутам.

Праверку правялі па звароце кіраўніка прадпрыемства ў ходзе справы аб банкруцтве. Аператыўнікі фінансавай міліцыі ўстанавілі, што таварыства мела запазычанасць перад рознымі суб'ектамі гаспадарання ў суме больш за адзін мільён рублёў. Пагасіць яе прадпрыемства не магло, у сувязі з чым падало заяву ў эканамічны суд аб прызнанні банкрутам.

Аднак пасля падачы заявы былы намеснік дырэктара таварыства заключыў здзелку па адчужэнні трох аўтамабіляў «Фольксваген-Крафтэр». Пасля аўтамабілі знялі з уліку і прадалі фізічным асобам за наяўны разлік за 51,1 тысячы рублёў.

Грошы ад продажу на адрас фірмы не паступілі. Іх прысабечыў былы намеснік дырэктара камерцыйнай арганізацыі.

Гэта павялічыла неплацежаздольнасць таварыства і нанесла шкоду ў асабліва буйным памеры прадпрыемствам-крэдыторам.

Следчы камітэт у дачыненні да былога намесніка дырэктара ўзбудзіў крымінальную справу па артыкуле «Стварэнне перашкодаў кампенсацыі страт крэдытору (крэдыторам)».

Санкцыі артыкула прадугледжваюць пакаранне ў выглядзе штрафу або абмежавання свабоды на тэрмін да двух гадоў, або пазбаўлення свабоды на той жа тэрмін.

**Паводле інфармацыі Камітэта дзяржкантролю.**

## Патушылі машыну, якая загарэлася апоўначы

МАЛАДЗЕЧНА

Апоўначы 5 ліпеня пажарныя выехалі на выклік.

На стаянцы ў жылым двары па вуліцы Францыска Скарыны гарэў «ВАЗ-2107».

З-за пажару выгараў салон.

Выратавальнікі павінны былі не толькі спыніць агонь, але і не дапусціць, каб ён перакінуўся на іншыя аўтамабілі.

Меркаваная прычына пажару – падпал невядомай асобай.

## «Прыбегла спалоханая». У Маладзечанскім раёне здарыўся пажар у доме, у якім пакінулі дзіця без нагляду

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося днём 4 ліпеня.

Калі пачаўся пажар, у доме была 12-гадовая дзяўчынка.

Выратавальнікам пра здарэнне паведаміла суседка. Менавіта да яе прыбегла спалоханае дзіцянё.

Нельга пакідаць дзяцей без нагляду. Летам бацькі павінны арганізаваць вольны час сына ці дачкі так, каб яны не заставаліся без дарослых.

Пасля пажару дом у вёсцы Пранчэйкава непрыгодны для пражывання. Прычыну пажару высвятляюць.

## Жыхар Астраўца пабіў рукамі і нагамі пяць аўтамабіляў

АСТРАВЕЦ

Здарэнне адбылося каля трох гадзін ночы 1 ліпеня.

27-гадовы маладзён у гэты час знаходзіўся ў раёне вуліц Будаўнікоў і Усходняй. На вочы яму трапіліся пяць машын, прыпаркаваных без парушэнняў правілаў дарожнага руху.

Але маладому чалавеку нешта не спадабалася ў гэтых машынах, і ён пачаў біць іх кулакамі і нагамі.

На дзіўныя гукі звярнуў увагу адзін з гаспадароў аўто. Мужчына выйшаў на вуліцу паглядзець, што робіцца. Заўважыў падазраванага і пазваніў у міліцыю. Апісаў зламысніка.

Маладога мужчыну хутка затрымалі. У адносінах да яго ўзбудзілі крымінальную справу па артыкуле «Хуліганства».

**УУС Гроднааблвыканкама.**

## Падчас праверкі гаспадарак злавілі п'яных работнікаў

ВАЛОЖЫН

Рэйдавая група праверыла 10 ліпеня дзве гаспадаркі Валожынскага раёна – «Агра-Вішнеўскі» і «Сакаўшчына-Агра».

Праверку правялі для таго, каб уборачная кампанія прайшла якасна, каб папярэдзіць крадзеж новага ўраджаю і матэрыяльна-тэхнічных каштоўнасцяў гаспадарак. Таксама каб знайсці факты безгаспадарчасці службовых асоб, калі яны будуць. Правяралі таксама, ці ў належным стане сельскагаспадарчая тэхніка.

Падчас рэйду склалі тры пратаколы за знаходжанне на рабочым месцы п'янымі. Шэсць адміністрацыйных пратаколаў склалі за выпуск на лінію транспарту без дзяржаўнага тэхагляду. Два пратаколы атрымалі кіраўнікі гаспадарак за невыкананне прадпісання. Два вадзіцелі атрымалі пратаколы за кіраванне транспартным сродкам, які не прайшоў тэхагляд.

З работнікамі правялі прафілактычную гутарку.

**Сяргей ГЕЛДА, намеснік начальніка Валожынскага РАУС.**

# «Бацькі — дырэктары школ, яны ніколі не правяралі ўрокі»

## Насця Саванец з Ашмянаў расказала, як атрымала на ЦТ 100, 100 і 97 балаў

АШМЯНЫ

**Выпускніца ашмянскай гімназіі №1 атрымала «сотку» за тэсты па біялогіі і хіміі. Беларускую мову дзяўчына здала на 97. А сярэдні бал атэстата – 10. А таксама яна выступала на міжнародным конкурсе па цымбалах і ў спартыўных спаборніцтвах розных накірункаў.**


Фота з архіва Насці САВАНЕЦ

Дзяўчына выдатна здала іспыты, у канцы лета будзе адпачываць.

Насця расказала ў інтэрв'ю «Рэгіянальнай газеце», што прадбачыла вынік «90+».

– Але хвалявалася вельмі моцна. Летась прахадны бал на бясплатнае аддзяленне быў 376. Як толькі выйшла з тэста па беларускай мове, адразу даведалася, што зрабіла адну памылку. Перажывала, каб не было яшчэ і іншых. Ну, а калі прыйшоў вынік па мове, адчула палёгку, што памылка толькі адна.

Дзяўчына прызнаецца: «Думала, буду скакаць да столі, калі атрымаю 100 балаў». Аднак на справе атрымалася інакш. Даведалася пра 100 балаў па біялогіі – пачала перажываць пра хімію. Радавацца загадзя дзяўчына забаялася:

– Я з тых людзей, хто не загадвае наперад і не радуецца загадзя. Таму і радасць была, але не такая, як чакала. А сапраўдная палёгка прыйшла з вынікамі хіміі. Калі атрымала смс-паведамленне, задрыжалі рукі.

### Як рыхтавалася да ЦТ

Насця рыхтавалася сама, хадзіла да рэпетытара па біялогіі, вельмі дапамаглі міжшкольныя факультатывы.

Выпускніца дзякуе педагогам: па беларускай мове – **Тэрэзе Рамانаўне Івашкевіч** і **Марыне Генадзьеўне Свірбутовіч**, па біялогіі – **Святлане Антонаўне Мароз** і **Валянціне Пятроўне Ламака**, па хіміі – **Вользе Мікалаеўне Вінцкоўскай** і **Ганне Казіміраўне Лугінай**.

Беларускую мову абрала таму, што падабалася настаўніца, а таксама хацела ўпэўніцца, што добра валодае роднай мовай.

> Ці можна добра падрыхтавацца да тэставання, на думку выдатніцы, залежыць ад таго, як арганізаваны чалавек.

– У мяне з дзяцінства вялікая нагрузка, – расказвае Насця. – Хадзіла ў музычную школу, на гурткі. І арганізоўвала сябе сама. Мне не было складана.

Стабальніца мяркуе, што зарабіць добры вынік на ЦТ не так і складана. Галоўнае, сістэматычна рыхтавацца, расстаўляць прыярытэты і займацца як мага больш.

### Дзякуй маме, што не пашкадавала

Дзяўчына займалася цымбаламі, баскетболам, хадзіла на спаборніцтвы па лёгкай атлетыцы і лыжных гонках.

– Памятаю, у другім класе музычнай школы плакала і прасіла, каб мяне адтуль забралі. Але мама настаяла. За гэта ёй вельмі ўдзячная, проста вельмі. За пяць год я стала дысцыплінаванай. Навучылася браць сябе ў рукі ў адказныя моманты. Не выйдзеш жа выступаць на міжнародным конкурсе, дзе цябе ацэньваюць выкладчыкі з розных краін, з дрыжачымі рукамі.

Як маладой дзяўчыне вытрымаць такую нагрузку, Насця адказвае так: давалося ахвяраваць сацыяльнымі сеткамі і рэдка ў іх заходзіць.

### Бацькі ўрокі не правяралі ніколі

Насця лічыць, што менавіта такі падыход бацькоў правільны. Абое яны – дырэктары школ. **Вольга Уладзіміраўна Саванец** узначальвае гімназію №1, якую закончыла выпускніца, а **Аляксандр Анатольевіч Саванец** кіруе школай у Барунах.

Выпускніца прызнаецца, што часам бянтэжылі размовы з серыі «У цябе добрыя адзнакі, таму што ў цябе такія бацькі». Але гэта нават у нейкай ступені загартавала – ужо не так звяртаеш увагу на чужое меркаванне.

### Куды паступае

Насця будзе паступаць у медуніверсітэт. Праз тыдзень паедзе падаваць дакументы. Факультэт пакуль не абрала, але схіляецца да стамфака.

Стаць доктарам вырашыла ў восьмым класе. Пра такую ж прафесію марыць малодшы брат.

Выпускніца любіць фільмы пра дактароў, але медыцына прыцягнула не з-за кіно, а з-за сямейнага досведу.

Медсястрой працавала бабуля, шмат дактароў па маміннай лініі, ёсць сваякі, звязаныя з фармацыяй.

### Як дзейнічаць бацькам

Насця раіць бацькам, якія хацелі б бліскучых вынікаў за ЦТ ад сваіх дзяцей, – давярайце дзецям.

> – Размаўляйце на роўных. Проста сядзьце ў адзін вечар, абмяркуйце ўсе «за» і «супраць». Разам з сынам ці дачкой абярыце факультэт і распрацуйце план падрыхтоўкі.

Сяброўкі Насці таксама добра здалі ЦТ. **Тоня Ляпко** і **Юля Качэрга** атрымалі па 100 балаў па рускай мове. Паступаць яны збіраюцца ў іншыя ўніверсітэты.

Пасля паступлення Насця збіраецца адпачываць з сябрамі і сям'ёй.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**


Фота забяспечана Маргарытай КУБЛІЦКАЙ

Выпускніца школы №1 Маргарыта Кубліцкая выдатна здала ЦТ і паступае на культуролага.

# Дзяўчына з Маладзечна здала ЦТ на 100 балаў па гісторыі Беларусі, якую палюбіла за год

МАЛАДЗЕЧНА

**Думаеце, што вывучыць і палюбіць прадмет за адзін навучальны год немагчыма? Выпускніца СШ №1 Маргарыта Кубліцкая змагла, ды яшчэ здала яго на максімальны бал. Пра падрыхтоўку і свае іншыя выдатныя вынікі чытайце ў сённяшнім інтэрв'ю.**

**– Ці падабалася табе гісторыя Беларусі ў школе?**

– Я заўсёды спадзявалася, што адзіны прадмет, які я не буду здаваць на ЦТ, – гэта гісторыя Беларусі. Я думала, што ў мяне не атрымаецца запомніць усе даты, не люблю лічбы. Але прыйшлося здаваць тэставанне для паступлення.

**– Як праходзіла падрыхтоўка да ЦТ?**

– Рыхтавалася на працягу ўсяго навучальнага года з рэпетытарам. Люблю, калі мне ўсё падрабязна расказваюць, тлумачаць незразумелае. Гісторыя мяне захапіла. І толькі з гэтага года я па-сапраўднаму палюбіла прадмет.

**– Ці ставіла мэту здаць менавіта гісторыю Беларусі на 100? Або было жаданне атрымаць максімальны бал па іншых прадметах?**

– Была мэта здаць усе прадметы на высокія балы, таму што планавала паступаць толькі на бюджэт. Але каб на 100, ды яшчэ і гісторыю Беларусі, – не. Падчас падрыхтоўкі я, мой рэпетытар і асабліва мая маці рабілі стаўкі на грамадазнаўства. І ў выніку дапусціла адну памылку, было крыўдна. А пасля вельмі здзівілася, калі ўбачыла вынікі па гісторыі.

**– Ці было цяжка сумяшчаць падрыхтоўку да ЦТ і вучобу ў школе, падрыхтоўку да школьных іспытаў?**

– Так, было вельмі складана. Асабліва ў канцы навучальнага года, калі трэба было рэпеціраваць канцэрт да апошняга званка, выпускнога вечара, таксама трэба ж было рыхтавацца да школьных экзаменаў. У канцы года нават не хапала часу на сон (смяецца). Паўсюль было шмат інфармацыі, пачыналася паніка, здавалася, што нічога не паспею. Але потым сабралася з думкамі. Таксама падтрымліваў рэпетытар, гаварыў, што я ўсё ведаю і ўсё выдатна здам.

**– Хапала часу на хобі, сяброў?**

– Так, я займалася танцамі, гуляла з сябрамі па выхадных.

**– Як бацькі паўплывалі на тваю падрыхтоўку да ЦТ? Ці была нейкая падтрымка, дапамога з іх боку?**

– Па-першае, гэта маці знайшла мне рэпетытара, па-другое, бацька быў заўсёды побач, адвозіў на машыне туды, куды было трэба.

**– Як увогуле здала іншыя прадметы?**

– Руская мова – 84, грамадазнаўства – 98.

**– Куды плануеш паступаць?**

– Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў. Спецыяльнасць – культуролаг, накірунак – PR і рэклама. Гэта мой выбар, бацькі не вельмі рады, але адгаварваць не сталі.

**– Як плануеш адпачыць летам пасля такога складанага навучальнага года?**

– Лета праведу ў Беларусі, буду наведваць музычныя фестывалі.

**– Што можаш параіць будучым выпускнікам?**

– Разлічвайце на свае сілы і толькі крышачку на шанцаванне, таму што ўсё вось гэта «табе так пашанцавала» – поўная бязглуздзіца. Трэба вучыцца і ўкладваць усяго сябе ў падрыхтоўку.

**Марыя КРУПСКАЯ.**

Рэгіянальная газета. Rh.by

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** |
| | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Опель-Амега, 1988 г.в., 1,8 газ-бензін, у добрым стане. Т. Вэлком (8-029) 1633772.*

• Сітраэн С-5, 2002 г.в., хэтчбэк, 2,0 HDI, нюансы па дробязях, 6000 руб., торг. Т. (8-029) 5676832.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** **ІП** Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

• Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-025) 9414091.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 9961242.*

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### ПАСЛУГІ

• Міні-экскаватара, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю.І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-пагрузчык, міні-экскаватар, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 1790000.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772 Т. ()8-029) 6926052.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул. Маркава, 2/2. Т. (8-029) 2507130, (8-029) 2521951.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул. Будаўнікоў,13. Т. (8-029) 5046429.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы з еўрарамонтам. Альбо абмен на Мінск з даплатай. Т. (8-025) 5296374.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Савецкай, нядорага. Т. МТС (8-029) 8527481.

• Дом вялікі ў добрым месцы, 13 км ад Смаргоні. Нядорага. Т. (8-029) 8724272.

• Дом у в. Якавічы і дом у в. Маркава Маладзечанскага раёна. Т. (8-029) 5616191.*

• Дом цагляны ў вёсцы Куранец Вілейскага раёна агульнай плошчай больш за 100 кв. м, зямельны ўчастак 40 сотак.Т. (8-029) 5609402.*

• Садовы ўчастак, жылы домік. Нядорага. КААП «Брыльянт», каля вёскі, чыгуначны прыпынак «Ласі». Т. (8-033) 6407558.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вясёлы тамада. Жывая музыка. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерсэдэс-412, 3 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Агароджы з прафнасціла, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, двухстворкавыя. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катароў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Драбленне пнёў любога дыяметра. Хутка, якасна, нядорага. ІП Таўгень Е П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Наносім фота любімых на майку альбо кубак, 9 руб. Смаргонь, вул. Танкістаў, 8 «НгС». ІП Улан Р.В. УНП 690288442 Т. (8-029) 6631595.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

**Адкрываецца паляванне ў летне-асеннім сезоне 2018 года**
ў арандаваных паляўнічых угоддзях установы
«Маладзечанская раённая арганізацыйная структура» РДГА «БТПР»
у парадку, які вызначаны Правіламі вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання:

• ад 14 ліпеня да 11 жніўня на бакаса у светлы час сутак для ўладальнікаў выжлаў, спаніэляў, ратрывераў;
• ад 11 жніўня да 9 снежня на вадаплаўную, акрамя гусей, і балотную дзічыну, перапёлку, вальдшнэпа, шызага голуба, вехіра, фазана ў светлы час сутак;
• ад 1 верасня да 9 снежня на рабчыка і шэрую курапатку ў светлы час сутак;
• ад 15 верасня да 9 снежня на гусь белалобую, гусь-гуменніцу, гусь шэрую, канадскую казарку ў светлы час сутак.

**Паляванне праводзіцца ў пятніцу, суботу, нядзелю, панядзелак, у дзяржаўныя святы, святочныя дні, аб'яўленыя Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь нерабочымі, і ў асобныя дні ў выпадку іх пераносу Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь на выхадныя дні.**

Даведкі па тэлефоне **73-63-14.**

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛОЎВАННЕ, АБРЭЗКА ДРЭЎ**. Толькі бяспечныя метады працы. Прафесійная праца супрацоўнікаў. Кансультацыя і ацэнка **БЯСПЛАТНЫЯ**. Працуем больш за 6 гадоў. Спілоўванне + драбленне + копка – **СКІДКА**. ІП Таўгень Е П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Уцяпленне дамоў (пенапласт, вата), афарбоўка, падшыва. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя, цэгла. Дастаўка. Выгрузка. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 1989988, (8-033) 6989980.*

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. ІП Сергіенка Л.У. УНП 591805547. Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. Дошкі для падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

• Цэгла (кірпіч) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• Абаненцкія карты «Трыкалор» – скідкі! Акцыі! Антэны спадарожнікавыя – вялікі выбар, нізкія цэны. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• Антэны спадарожнікавыя «Трыкалор», НТВ+, замена старых прыёмнікаў на новыя. ГПУП «Ліцераль». УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Вуллі новыя на 24 рамкі. Т. Вэлком (8-029) 9950326.*

• Карова галштынскай пароды, 2 ацёлы. Т. у Маладзечне 732605.

• Шчаняты, маці «Балонка», вага 3 кг. Т. МТС (8-029) 2571956, Вэлком (8-029) 9785344.

**Іншае**

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

## КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Арматуру 8, 10, 12 мм, ліст 1,5 – 3 мм. Т. (8-029) 1247481.*

• Кнігу «Памяць», розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

# ПРАЦА

## ПАТРАБУЕЦЦА

• Арганізацыі для працы ў Вілейцы патрабуецца спецыяліст па перамотцы электрарухавікоў, юрыст з досведам працы, брыгада будаўнікоў-універсалаў (цесляры-бетоншчыкі, муляры), тынкоўшчык-маляр. З/плата па выніках сумоўя. 222410, г. Вілейка, вул. Кастрычніцкая, 32. Т. (8-01771) 23751,(8-029) 7791319, (8-044) 7791319.

• **ПРАДАВЕЦ-КАНСУЛЬТАНТ, ПРАДАВЕЦ-КАСІР** у магазін «Ламінат» у Маладзечне па вул. Валынца, 12-е. Т. (8-029) 6368886.

• Рабочыя будаўнічых спецыяльнасцяў, прараб. ТАА «Стройбай» УНП 692023203. Т. (8-033) 3516839, (8-044) 5186382.*

## ШУКАЮ РАБОТУ

• Аддзелачнік. Вялікі досвед працы. Т. (8-029) 2775694.*

• Ачыстка і рамонт калодзежаў. Капанне каналізацыі ўручную. Т. (8-029) 2168221.*

• Пячнік. Т. Лайф (8-025) 6035930.*

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# Чым немцы займаюцца на лецішчах


Фота superstroika.com.

Для немцаў лецішча – гэта адпачынак і цішыня.

**Выглядае шэраг нямецкіх лецішчаў вельмі міла. Але на тое, для чаго трэба дача, яны маюць сваё меркаванне.**

Часцей за ўсё ўчасткі пад лецішча немцы бяруць недалёка ад свайго дому ці кватэры. Яго нельга купіць ці прыватызаваць – толькі ўзяць у арэнду. Нямецкія дачнікі звычайна атрымліваюць не самыя прэзентабельныя прапановы зямлі. Участкі невялікія і размешчаныя каля дарог – там, дзе зямля цэніцца невысока.

### Без асфальту і, можа, без туалета

У дачных пасёлках звычайна не кладуць асфальт, таму жыхары перамяшчаюцца тут на ровары. Тым больш, што ехаць з дому недалёка. А машыны пакідаюць на паркоўцы паблізу ад пачатку пасёлка.

З інфраструктурай тут звычайна так. Для вады на патрэбы ўчастка – калонка ці ёмістасці, што збіраюць дажджавую ваду. Электрычнасць праведзеная не паўсюль, але сярод дачнікаў ёсць тыя, у каго ўсталяваныя сонечныя батарэі. У якасці прыбіральні ў некаторых стаяць біятуалеты.

Звычайны ўчастак – 1,5-3 соткі. І пры гэтым гаспадары ўмудраюцца размясціць тут розныя зоны – агарод, кветнік, сад, парнік, пабудову, сажалку і пляцоўку для дзяцей. Ну, і нямецкая дача – гэта бездакорны газон, які ўпрыгожваюць садовыя гномы. Фігуркі гномаў – гэта самы важны атрыбут нямецкага лецішча, і іх тут можа быць не адна сям'я.

Так як участкі невялічкія, то і дамы ставяць маленькія. Па стылі яны розныя. Бываюць вельмі мілыя домікі, а трапляюцца такія будынкі, нібы складзеныя з таго, што шкада было выкідаць.

На ўчастках садзяць любімыя культуры, адпачываюць, збіраюцца на шашлыкі. У многіх дварах размешчаныя забавы для дзяцей, напрыклад, батуты.

> **Хаця на такім лецішчы хораша адпачыць, але ўсё ўладкавана так, каб тут не заставаліся надоўга. А жыць у нямецкім дачным доміку пастаянна проста немагчыма.**

### Усё строга па дакументах

У кожным таварыстве дачнікаў ёсць статут, які прапісвае літаральна ўсё. Колер і памер доміка, глыбіню сажалкі. Жаданне стаць дачнікам у многіх заканчваецца з прачытаннем гэтага дакумента.

Калі ж парушыць нешта са статуту, давядзіцца плаціць штраф. Такім чынам немцы забяспечваюць сабе прадказальных суседзяў. А злосных парушальнікаў могуць выключыць з таварыства.

Зрабіць лазню ці басейн у большасці выпадкаў нерэальна. Аднак можна паставіць невялічкі штучны вадаём.


Фота houseadvice.ru.

Чым больш садовых гномаў, тым лепш.

### Дача – гэта клуб

Не кожны захоча замарочвацца і выконваць усе пункты статута. Але калі ты становішся жыхаром нямецкага дачнага пасёлка, то аўтаматычна падпісваешся пад удзелам у яго жыцці.

Тут сваё жыццё, сустрэчы, мерапрыемствы і грамадска-карысная праца. Кожны дачнік павінны прысвяціць некаторы час агульнай важнай справе. Напрыклад, падстрыгчы газон на агульных тэрыторыях.

### Правілы паводзін

Акрамя жорсткага статуту, на нямецкай дачы ёсць свой этыкет. З-за таго, што сюды прыязджаюць найперш для адпачынку, прынята шумець толькі ў вызначаны час. Працаваць з газонакасілкай ці іншымі інструментамі можна толькі ў гэты час. З дзевяці да пяці ў рабочыя дні і суботу працаваць можна. Нядзеля – дзень, калі ціха павінна быць увесь час. А гучна слухаць музыку нікому і ў галаву не прыйдзе. Гэта ж дача!

Паліць вогнішчы на ўчастку нельга. Але можна карыстацца мангалам. Калі вы хочаце зладзіць вечарыну з вялікай колькасцю гасцей, вам парэкамендуюць святкаваць у кафэ.

**Эмілія ХВОЯ.**



Ксенія Суша з сям'ёй.



Марыя і Кацярына прыехалі з суседняй вёскі.




Майстар-кераміст Васіль Шчэрба.







# «Паэзія тут проста лётае ў паветры»

## Вязынка прыцягвае наведнікаў атмасферай і сувенірамі

МАЛАДЗЕЧНА

**Пад Маладзечнам адзначылі 136-ю гадавіну народзінаў Янкі Купалы.**

Свята прайшло ў Вязынцы ў суботу, 7 ліпеня. Не абышлося яно без традыцыйнага чытання вершаў, народных спеваў, а таксама распродажу рамесных вырабаў. Сёлета мерапрыемства прайшло пад назвай «З адною думкаю аб шчасці Беларусі».

Карэспандэнтка «РГ» запыталася ў трох гасцей мерапрыемства, чаму іх цягне ў Вязынку і як яны любяць бавіць час на радзіме Купалы.

– Я прыязджаю ў Вязынку за атмасферай, – кажа майстар-кераміст **Васіль Шчэрба** з Маладзечна. – Калі б сюды не прыехаў – на Гуканне вясны, на Купалле ці на Багач, – заўсёды адчуваецца, што гэта месца вельмі блізкае да народа і нашай культуры.

Майстар кажа, што і людзі, якія прыязджаюць сюды, асаблівыя.

– Тут амаль няма «залётных» турыстаў, якіх часта сустракаеш у Мінску, – тлумачыць Васіль. – Калі чалавек сюды прыехаў, то ён разумее важнасць беларускай мовы і культуры ў сваім жыцці. З такімі людзьмі асабліва прыемна працаваць.

Для рамеснікаў святы ў Вязынцы – яшчэ і магчымасць падзарабіць. На пытанне, ці добрыя грошы можна атрымаць за дзень працы ў Вязынцы, Васіль усміхаецца:

– Калі б гэта было не так, то ці ездзілі б мы сюды штогод, як думаеце?

Вялікі выбар сувeніраў і ўпрыгажэнняў ручной работы сапраўды прыцягвае людзей. Гэта пацвярджаюць дзяўчаты **Марыя** і **Кацярына**, якія прыехалі ў Вязынку на роварах з суседніх Пятрышкаў.

– Мы спецыяльна сёння праехалі тры кіламетры, каб пабываць на свяце, – кажа Марыя. – Але, шчыра кажучы, нас найбольш цікавіць не канцэрт, а магчымасць выбраць цікавыя рэчы ў майстроў. Такіх больш нідзе не знойдзеш! Ды і пасядзець тут ля рэчкі вельмі прыемна.

Ёсць і тыя, хто наведвае свята паэзіі ўсёй сям'ёй. **Ксенія Суша** спрытна ўпраўляецца са сваімі малымі дзеткамі, усаджваючы іх на плед ля рэчкі. Разам з мужам яна штогод прыходзіць на свята.

– Мы праводзім у Вязынцы ўсё лета, таму ўжо амаль як мясцовыя жыхары, – кажа жанчына. – Гэта мясціна настолькі купалаўская, што мы ніяк не можам абмінуць свята! Тут неверагодна прыгожа, і паэзія проста лётае ў паветры.

Ксенія прызнаецца, што хоча прышчапіць любоў да гэтай мясціны і да паэзіі сваім дзецям.

– Вершы мы пакуль на памяць не вучылі, але вось прачыталі тыя, якія тут напісаныя на камянях. Таму дзеткі ўжо пацiху вучацца, але шмат адкрыццяў у іх яшчэ наперадзе.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**
**Фота аўтара.**

# Віляйчанін заклікае паставіць памятны знак фальклрысту ў Вешках

ВІЛЕЙКА

**Такую прапанову агучылі падчас канферэнцыі са скульптарам Уладзімірам Слабодчыкавым 3 ліпеня ў Вілейцы.**

Мерапрыемства праходзіла ў межах выставы скульптара ў Доме культуры. З ініцыятывай выступіў аўтар кнігі «Пра Вяллю, рыбу і рыбалку» **Міхаіл Міхалевіч**. Віляйчанін патлумачыў, што Слабодчыкаў мог бы вырабіць і ўсталяваць памятны знак альбо скульптуру ў гонар вядомага кампазітара і фалькларыста **Нестара Сакалоўскага**. Усталяваць мемарыяльны знак варта ў вёсцы Вешкі, дзе і нарадзіўся Сакалоўскі.

### Сакалоўскі і Слабодчыкаў – землякі

Вёска Вешкі раскінулася ўздоўж берага вярхоўя Віліі побач з мяжой Вілейскага раёна, на мяжы Бярозкаўскага і Даўгінаўскага сельсаветаў, за Мільчай і Саланым. Даўней яна ўваходзіла ў склад Вілейскага павета, цяпер Докшыцкі раён.

З Вешак пачынаўся сплаў нарыхтаванага ўзімку лесу па Віліі да Вільні і Коўна. Хаця адміністрацыйна Вешкі адносяцца да Докшыцкага раёна, іх жыхары кожную нядзелю хадзілі на кірмаш у мястэчка Даўгінава. Менавіта ў Даўгінаве нарадзіўся, рос і вучыўся у школе скульптар Слабодчыкаў. Дзесяць вёрст – не адлегласць для гаспадара з канём.

Толькі ў 1920-1939 гадах было немагчыма трапіць з Вешак у Даўгінава, таму што праляглa мяжа. У гады вайны жыхары Вешак хадзілі да святара Мільчанскай царквы Даўгінаўскай парафіі. Так што Слабодчыкаў і Сакалоўскі – з адной мясцовасці, іх можна назваць землякамі.

### Памятаюць месца, дзе стаяла хата Сакалоўскіх

Міхалевіч урачыста дарыў кнігу «Пра Вяллю, рыбу і рыбалку» скульптару. У прамове ён прыгадаў, як падчас экспедыцыі «Шляхам графа Тышкевіча» сустрэўся з жыхаркай Вешак **Зосяй Несцяронак**. Яна – апошняя з жыхароў Вешак, хто дакладна памятае месца, дзе стаяла хата славутага кампазітара. Ніхто не пазначыў тое месца на беразе Віліі ні помнікам, ні шыльдай.

Такога стаўлення да значных асоб немагчыма ўявіць сабе ў нашых суседзяў, дзе цячэ тая самая рака Вялля, але ўжо пад назвай Нярыс. Напрыклад, аўтар гімна Літвы **Вінцас Кудзірка** ўшанаваны і шыкоўнымі помнікамі, і назвамі плошчы і вуліц. А з Нестарам Сакалоўскім усё вельмі сціпла.

**Варта паглядзець, што робіцца ў суседзяў, і пераняць усё лепшае. А ў год, абвешчаны годам малой Радзімы, такія задачы павінны быць у прыярытэце.**



Фота Віктара ТОНКАВІЧА

Міхаіл Міхалевіч (справа) дорыць сваю краязнаўчую кнігу Уладзіміру Слабодчыкаву.

Уладзімір Слабодчыкаў пагадзіўся з прапановай і абяцаў падумаць, як арганізаваць пленэр у Вешках са студэнтамі, што вучацца манументальнаму мастацтву. Будзем спадзявацца, што з'явяцца архітэктурныя праекты помніка ці памятнага знака, дастойныя музыкі нашага земляка.

**Ягор МАЛІНОЎСКІ.**

Нестар Сакалоўскі – беларускі кампазітар, хормайстар, фалькларыст. Нарадзіўся ў вёсцы Вешкі Докшыцкага раёна. Закончыў Мінскі музычны тэхнікум, Беларускую кансерваторыю. Арганізаваў ансамбль беларускай народнай песні і танца дзяржаўнай філармоніі.

У 1944 годзе заняў пасаду начальніка аддзела мастацкай самадзейнасці Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР. Праз два гады стаў старшым рэдактарам рэдакцыі музлітаратуры Белдзяржвыдавецтва.

Ён аўтар музыкі Дзяржаўнага гімна БССР. Менавіта Сакалоўскі пісаў песні на вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Петруся Броўкі, Міхася Чарота і іншых выдатных беларускіх паэтаў.

Надзвычай важным лічаць яго працу з фальклорным матэрыялам. Ён запісаў і апрацаваў больш за 500 песень і найгрышаў.



Нестар Сакалоўскі.

## Вытрымкі з кнігі «Пра Вяллю, рыбу і рыбалку»

...Вёска **Вешкі** (8 км/503) Бярозкаўскага с/с Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці.

**Ніна Трафімаўна Шустоўская** (дзяв. Рудкоўская), 1936 г. н., мясцовая:

– Хадзілі мы з маім мужам у рыбу, як ён кавалерам яшчэ быў. Лавілі, ну як называюць шчупакі, пападаліся, ну плоткі. Дзеці бегалі, дык у бучы лавілі і проста цiскалі рукамі ў траве. Цяпер ужо Вілля зарастае.

Так, пра Нестара Сакалоўскага знаю, і ён яшчэ родсценнік нам, а дзе быў дом, так не скажу, не памятаю. Плыты вязалі пад канец вёскі і лес ганялі.

**Зося Кандратаўна Несцяронак** (дзяв.Сакалоўская), 1934 г. н.:

– ...Мая мама, Зося Аляксандраўна, была Нестару стрыечнай сястрой, а тата мой, Сакалоўскі Якаў Кандратавіч, з 1910 г. Мужык мой з Юрылава. Пяць дзяцей у нас, усе раз'ехаўшыся. Вешкі да 39 года былі ня ў Польшчы. Вілля даўней была глыбокая, усе купаліся, а я не ж, ня ўмею і вады баюся. Рыбу лавілі. Шчупакі былі самыя смачныя. Карасі былі сладзенькія, але многа ў іх касцей, а так сладзенькія. Маленькую рыбу нават сасын мой лавіў кошыкам. Было і рыбы, і ракаў. Ракаў варылі і елі.

А потым чаму тут рыбы не стала? Во тут во недалёка, там на пагорку з аміякамі былі бальшыя бочкі. Аміяк лілі гэта ўжо пры саўхозе. Спачатку тут калхоз быў, а потым саўхоз. Бочкі там палажылі, ля Вілейкі радам, але на тэтым баку, сюды, да нас. Гэтыя бочкі ўзарваліся, і ўсё ж у раку пайшло. І ўсё, пасля таго няма рыбы, няма ракаў.

...Мой папа быў дзясяцкі, прымаў лес. Ганялі ў Вялейку. Ганяў на плыты. І каля берагоў ішлі, гналі. У іх былі такія длінныя шасты – бусакі. Бусакамі ад берага адганялі і пяшком. Гналі баланс – ну, гэта такія, як дровы прадаюць. Звалі моллю, як цяпер на дровы рэжуць, па 2 мэтры. Быў моль і даўжок. А даўжок – гэта каторы страіцельнае дрэва. Вада была чысценькая, пілі ваду людзі з ракі, а ў нас з крыніцы бралі. Вілля памялела і стала зарастаць ужо як перасталі па ёй лес ганяць, як не стала скацiны. Скацiны было поўна. Было людзей, я помню, толькі баб 45 прыходзіла ў брыгаду на работу. А цяпер засталося дзве бабы на стаканніку, адна ўжо зусім ня ходзіць, а другая на калках ходзіць, і там відаць жаўтаваты дом – гэная такая, як і я.

...Сакалоўскія жылі зажытачна, многа зямлі было, кароў, быкоў было. Там авечак было. І вот празднік быў, і на Вялікадне ўсе пайшлі ў царкву. У Вялейцы была царква. Пайшлі яны ў Вілейку ў царкву. А быў іхні бацька стары. А даўна ж толькі люлькі курылі, самасадам напіхалі. А папірос не было. Самасад сеялі, крышылі. І гэты стары пайшоў есці даваць, закінуў з люлькі ў сена агню. Пакуль з царквы прыйшлі, усё згарэла. Усё згарэла, уся скаціна, усё пагарэла.

# Крэўскае вяселле ў апісанні Дамецiя Плаўскага

СМАРГОНЬ

**У глабалізацыйнай і камерцыялізаванай мітусні нашых дзён часта гіне тое, што вылучае кожны народ з шэрагу іншых і з'яўляецца свое_ асаблівай візіткай той ці іншай мясцовасці. Раней, калі чалавечыя кантакты не былі такімі шырокімі, мясцовыя традыцыі захоўваліся вякамі.**



Вяртанне з вяселля.

У другой палове 19 стагоддзя ў Крэве яшчэ існавала мноства адметных абрадаў і звычаяў, якія захаваліся са старажытных часоў. Пра гэта сведчыць тагачасны святар крэўскай Свята-Аляксандра-Неўскай царквы **Дамецій Плаўскі** ў сваім гісторыка-этнаграфічным нарысе «Мястэчка Крэва». Сёння мы спынімся на традыцыях, якія мелі дачыненне да шлюбу.

Шлюб – гэта адна з важнейшых вехаў у жыцці чалавека, таму і маладыя, і бацькі, і госці імкнуліся выканаць у ходзе яго ўсе няпісаныя правілы, якія складваліся вякамі.

Напярэдадні вяселля нявеста павінна была быць выключна ветлівай з сустрэчнымі, каб яе хто «не сурочыў, ці не пашкодзіў, ці не зрабіў чаго». У царкве перад шлюбам сваціця клала перад аналоем кавалак хатняга палатна. У час вянчання ўсе старанна сачылі, як гарэлі свечкі. Калі хоць адна з іх гасла, гэта лічылася вельмі дрэннай прыкметай.

Калі выходзілі з храма, дружка зацягвала:

*Хвала Богу, што папа*
*(ксяндза) ашукалі,*
*Не дорага*
*за шлюб далі:*
*За маладога –*
*Паўтара залатога,*
*За маладую –*
*Капейку залатую.*

Пасля вянчання госці ішлі ці ехалі ў дом бацькоў маладой. За сталом маладым давалася толькі адна лыжка, і яны карысталіся ёй па чарзе. Вяселле доўжылася два, тры, а то і чатыры дні.

**Пасля гэтага маладыя з гасцямі, забраўшы пасаг нявесты, ад'язджалі з песнямі і жартамі ў дом жаніха.**

Прынята было ехаць, а не ісці, нават калі дом жаніха знаходзіўся зусім недалёка.

Калі ўрачысты картэж набліжаўся да дома, на варотах ставілі гаршкі з попелам. І як толькі павозкі пачыналі ўязджаць у падворак, гэтыя гаршкі разбівалі каламі. Ад стукату і ўтворанага пылу коні кідаліся прэч, несліся па вуліцы, што весяліла гасцей. Забава паўтаралася некалькі разоў, пакуль змораныя коні не пераставалі звяртаць увагу на ўсю гэту мітусню.

Плаўскі выказвае думку, што традыцыя паходзіць са старажытных часоў. Гаршкі, напоўненыя попелам, атаясамліваліся з урнамі для праху, а іх біццё сімвалізавала наступнае: «Прэч ад нас тло і смутак, мы хочам жыць і радавацца!»

Ля ўвахода ў дом шафер падаваў маладой лапату і памяло – прылады, якія прымяняліся пры выпечцы хлеба, затым – іншыя рэчы з хатняй гаспадаркі. Пры гэтым маладая павінна была накрываць кожную рэч ці кавалкам палатна, ці хусткай. Пасля яе вялі ў хлеў паказваць скаціну, маладая і яе мусіла накрываць. Нявестка павінна была мець падарункі для бліжэйшых сваякоў жаніха. Багацейшыя дарылі палатно, паясы, хусткі, грошы; бяднейшыя – крэндзелі, арэхі, дробныя грошы.

Яшчэ да Плаўскага існаваў у нашай мясцовасці звычай саджаць нявесту перад шлюбам на перавернутую ўверх дном дзяжу. Дзяўчына добрых паводзін смела і спакойна садзілася на яе, пасля чаго дзяўчыну віншавалі, упрыгожвалі кветкамі, на галаву ўскладалі вянок з руты.

Калі ж за нявестай меліся грахі – яна не асмельвалася рабіць гэтага; тады з яе кпілі, жаніх быў незадаволены, і вяселле магло парушыцца. Калі такая нявеста ўсё ж ішла да шлюбу, то пасля яго за сталом на куце клалі парваны хамут, а маладой у час абеду давалі выщарбленую лыжку.

**Аляксандр КАМІНСКІ, Крэва.**

Даведка «РГ».
Аналой – падстаўка пад абразы і кнігі, выкарыстоўваецца ў рэлігійных абрадах.

# Пахавальныя традыцыі яўрэяў ва ўспамінах крэўскіх старажылаў

СМАРГОНЬ

**Многія традыцыі, звыклыя для аднаго народа, могуць падацца дзіўнымі і экзатычнымі для іншага.**

Сённяшнія мястачкоўцы старэйшага ўзросту раскажуць у дробязях пра тое, як яшчэ ў міжваенны час яўрэі хавалі сваіх супляменнікаў. Пра строгія правілы, якіх яны прытрымліваліся. Хутчэй за ўсё, падобныя правілы былі не толькі ў крэўскіх іўдзеяў, але пра іх я пачуў менавіта ад жыхароў нашага мястэчка.

Хаваць яўрэя можна было толькі на яўрэйскіх могілках. Перад пахаваннем цела абмывалі – спачатку мылі, пасля чаго вылівалі на яго яшчэ некалькі вёдзер вады. Затым нябожчыка заварочвалі ў белае льнянае палатно – саван. Калі чалавека хавалі ў труне, то абавязкова яна была з адтулінай. У труну нельга было класці староннія прадметы, нават кветкі.

Калі хавалі без труны, то спачатку на нябожчыка ў саване клалі пласт камянёў, цаглін або дрэва, а потым ужо засыпалі зямлёй. У суботу і галоўныя яўрэйскія святы хаваць забаранялася.

Найбліжэйшыя сваякі рабілі на сваім адзенні надрэз у раёне сэрца, што сімвалізавала рану, якую прычыніла смерць.

Жалобная працэсія ішла да месца пахавання, чытаючы малітвы. Па выхадзе з могілак абмывалі рукі і не выціралі іх. Памінак не спраўлялі. Асноўны перыяд жалобы для найбліжэйшых сваякоў працягваўся сем дзён, пачынаючы з дня пахавання. На працягу гэтага часу завешвалі ўсе люстэркі ў хаце, запальвалі свечкі. У гэтыя дні амаль не выходзілі з хаты, не працавалі, не віталіся і не развітваліся.

Не забаўляліся – не чыталі кніг, не слухалі музыку, не карысталіся ўпрыгажэннямі. На працягу дзён жалобы родныя памерлага не мыліся, не стрыгліся, а мужчыны не галіліся. Стрыгчыся і галіцца нельга было і пазней, на працягу 30 дзён.

Сапраўды, многія з гэтых традыцый падаюцца нам нязвыклымі. Але, пражываючы супольна на працягу стагоддзяў, прадстаўнікі розных народаў часам пераймалі адзін ад аднаго і некаторыя звычкі. У многіх беларусаў прыжыліся і прымяняюцца некаторыя яўрэйскія правілы. Напрыклад, завешваць люстэркі, калі ў доме нябожчык, і мыць рукі пасля наведвання могілак.

**Аляксандр КАМІНСКІ, Крэва.**

● КАЛЯНДАР

13 ЛІПЕНЯ

**1868.** 150 гадоў з дня смерці **Канстанціна Тышкевіча**, гісторыка, краязнаўца, аднаго з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі.

14 ЛІПЕНЯ

**1913.** 105 гадоў з часу заснавання Беларускага выдавецкага таварыства (дзейнічала ў Вільні ў 1913 – 1915 гг. і ў 1919 – 1930 гг.). На першым этапе існавання таварыства выпусціла ў свет 15 беларускіх кніг (творы Я.Коласа, М. Гарэцкага, К.Буйло, П. Беларуса, «Велікодную пісанку», «Беларускія календары» на 1914, 1915 гады і інш.). Пасля аднаўлення дзейнасці ў 1919 годзе выдала для беларускіх школ арыгінальныя падручнікі Л. Гарэцкай, Б.Тарашкевіча, А. Смоліча, А.Трэпкі. Выпусціла «Беларуска-рускі слоўнік», альманах «Заходняя Беларусь», «Беларускія календары» на 1922, 1924, 1926, 1927, 1929 гг. Вядучае месца займала выданне мастацкай літаратуры, твораў беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, перакладаў. Дзейнасць была спынена ў 1930 годзе пасля забароны ўрадам Польшчы легальных форм вызваленчага руху.

15 ЛІПЕНЯ

**1938.** 80 гадоў з часу адкрыцця Дзяржаўнага тэатра лялек Рэспублікі Беларусь (першапачаткова дзейнічаў у Гомелі; ад 1950 г. – у Мінску).

**1678.** 340 гадоў таму нарадзіўся **Анастас Керсніцкі** (Гальшаны), каталіцкі тэолаг, праваўзнаўца, педагог, пісьменнік. Памёр у 1733 годзе.

17 ЛІПЕНЯ

**1918.** 100 гадоў таму ў Маскве пачаўся Усерасійскі з'езд бежанцаў з Беларусі (227 дэлегатаў). З'езд выказаўся за самавызначэнне беларускага народа і ўтварэнне Беларускай Савецкай рэспублікі, асудзіў дзеячаў, якія абвясцілі на акупаванай тэрыторы Беларускую народную рэспубліку (БНР).

**1893.** 125 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Венгеркі**, польскага акцёра, рэжысёра, педагога. Нарадзіўся ў Варшаве. Як акцёр упершыню выступіў у Вільні (1912). Ён заснавальнік і мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага польскага тэатра БССР (1939 – 1941). У Айчынную вайну быў арыштаваны гестапа і загінуў (1942).

19 ЛІПЕНЯ

**1855.** Памёр **Тамаш Зан**, удзельнік вызваленчага руху, філамат, прыродазнаўца, літаратар. Нарадзіўся ў 1796 годзе ў Мясаце, цяпер Маладзечанскі раён.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# «Жэрці ды танцаваць на костках сваіх закатаваных суайчыннікаў проста нельга»

## Віляйчук расказвае, чаму далучыўся да сёлетняй абароны Курапатаў

ВІЛЕЙКА

**Пра тое, як вілейскія актывісты бачаць сітуацыю вакол Курапатаў, мы распыталі ў прадстаўніка грамадскага руху «Дзея» з Вілейкі Максіма Ціханава.**


Фота euroradio.fm.

Для многіх беларусаў менавіта Курапаты — месца памяці сваякоў, якія сталі ахвярамі сталінскіх рэпрэсій. Пра чый лёс пасля рук НКВД невядомы, як і тое, дзе яны пахаваныя на самой справе.

### Што ў Курапатах цяпер

Дзякуючы ўвазе да праблемы ў сецiве і з боку СМІ ў «забаўляльнай установе» амаль няма наведнікаў.

– У сярэднім адзін-два чалавекі за дзень, і то, я так разумею, гэта знаёмыя работнікаў і ўласнікаў, – мяркуе Ціханаў. – Буйныя бізнесоўцы ды прадстаўнікі ўлады выказваліся, што ніколі не наведаюць гэту ўстанову.

Актывіст удзельнічаў у абароне памятнага месца і летась. Адзначае, што розніца заўважная. І найперш яна бачная па людзях, што працавалі на будоўлі і што працуюць у рэстаране. У мінулым годзе працаўнікі ў пэўны момант самі пачалі адмаўляцца будаваць: зразумелі, у якім месцы ўсё адбываецца, што грошы на костках не зробіш, ды і не хацелі ісці супраць народа. Сённяшнія работнікі забаўляльнай установы ведаюць, дзе працуюць, што адбылося ў гэтым месцы, але не ідуць насустрач актывістам.

Сёлета ўстанова ўжо пабудаваная, у яе ўклалі вялікія грошы, і гаспадару цяжка іх губляць. Летась будоўля не перайшла таго пункта невяртання, калі ўжо нельга было спыніцца. Тады са стратамі, але забудоўшчык усё ж спыніў будаўніцтва.

– Я час ад часу далучаюся да варты ў Курапатах, – расказвае Ціханаў. – У яе хутчэй сімвалічны характар. Мы імкнёмся патлумачыць усё людзям, якія сюды прыязджаюць. Расказваем, што гэта за месца, чаму варта яго шанаваць. І сімвалічна не дазваляем уязджаць машынам на тэрыторыю самавольна пабудаванага забаўляльнага комплексу.

Абараняюць Курапатах не толькі на месцы. Пішуць звароты, скаргі ў дзяржаўныя ўстановы, водгукі ў «Кнізе скаргаў і прапаноў», на спецыялізаваных сайтах тлумачаць сітуацыю наведнікам.

### Чаму гэта асабістая справа

**Курапаты – гэта не проста месца сталінскіх рэпрэсій. Такіх месцаў, дзе адбываўся генацыд, у Беларусі нямала. Але менавіта Курапаты аб'ядноўваюць іх як месца памяці, якое стала сімвалам трагедыі беларускага народа.**

– Каб людзі памяталі, што адбывалася на нашай зямлі ў часы сталінскай дыктатуры – вось чаму мы тут! – кажа актывіст. – Як Хатынь стала сімвалам трагедыі Другой сусветнай вайны... У месцах масавых пакутаў ладзіць вяселлі, жэрці ды танцаваць на костках сваіх закатаваных суайчыннікаў проста нельга! Майго прадзядулю ў тыя часы, як і сотні тысяч беларусаў, таксама забраў «чорны варанок». Далейшы яго лёс невядомы. Таму асабіста для мяне Курапаты – месца, дзе можна ўшанаваць і яго памяць.

### Чаго чакаюць ад улады

Іншага месца для такіх ахвяр няма. Іх не хавалі на магілках і не рабілі помнікаў ці крыжоў з шыльдамі. На думку актывістаў, менавіта сённяшняя беларуская ўлада павінна абараніць месца памяці.

– Улада павінна прыслухацца да народа ды выправіць свае мінулыя памылкі, звязаныя з дадзенай забаўляльнай установай. Трэба вярнуць межы ахоўнай зоны, якія былі да 2014 года, выканаць прадпісанні Генеральнай пракуратуры 2012 года. Згодна з Грамадзянскім кодэксам, самавольна пабудаваныя будынкі неабходна знішчыць, а зямлю прывесці ў першапачатковы стан. Надышоў час уладам зрабіць вялікую праверку будаўніцтва гэтай установы, змяніць межы ахоўнай зоны, бо няўзброеным вокам бачна, што тут прысутнічаюць карупцыйныя схемы! – мяркуе Ціханаў.


Фота забяспечана Максімам ЦІХАНАВЫМ.

Максім Ціханаў.

Актывіст пералічвае, што адбывалася з Курапатамі:

– Будаўніцтва на той тэрыторыі распачалося яшчэ ў 2006 годзе, калі Міністэрству культуры быў прадстаўлены праект «аб'екта прыдарожнага сэрвісу» – звычайна гэта невялічкае кафэ ці запраўка. У 2012 годзе грамадскасць заўважыла, што будуюць там не прыдарожны сэрвіс, а забаўляльны комплекс, тады і адбыліся першыя пратэсты. Гэта прымусіла ўлады правесці праверку будаўнікоў. Генеральная пракуратура пастанавіла, што «БелРэстІнвест» будуе не тое, што было зацверджанае ў першапачатковым праекце, залезла на ахоўную зону «Курапаты», будуе самавольна. Але будоўля не спынялася, ды ў 2014 годзе ўлады памянялі межы ахоўнай зоны, і «БульбашХол» апынуўся нібыта па-за ёй... З'яўляецца пытанне, якім чынам не былі выкананыя прадпісанні Генеральнай пракуратуры? Якім чынам адбылася змена межаў ахоўнай зоны? Ды якім чынам змена межаў адмяніла рашэнні Генеральнай пракуратуры ад 2012 года? Значыць, нехта напляваў на заканадаўства ды выйшаў сухім з вады!

### Гісторыя змагання за Курапаты

Курапаты – гэта месца на поўначы Мінска, дзе масава пахаваныя ахвяры НКВД 1937-1941 гадоў. Ад 1993 года месца ўнесенае ў дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў.

Пасля артыкула **Зянона Пазняка**, у якім раскрывалася праўда пра Курапаты, яны сталі месцам ушанавання ахвяр сталінізму і сімвалам барацьбы супраць камуністычнай ідэалогіі, за незалежнасць Беларусі.

У пачатку 2000-х улады вырашылі пашырыць Мінскую кальцавую аўтадарогу так, што яна захапіла б урочышча Курапаты. Да праблемы прыцягнулі ўвагу міжнароднай супольнасці. Вынікам стала тое, што дарогу праклалі ў абход памятнага месца, але побач з ім.

У 2002 годзе выканкам дазволіў распачынаць будоўлю катэджнага пасёлка «Сонечны» каля мемарыяльнай зоны. Аднак пасля хвалі абурэння ў грамадстве будаўнічую пляцоўку закрылі. Праз некалькі год шырыню ахоўнай зоны вакол месца скарацілі.

Пасля ў 50 метрах ад Курапатаў дазволілі пабудаваць забаўляльны цэнтр «БульбашХол». Грамадскія актывісты распачалі кампанію па абароне мемарыяльнага месца. Адказ актывістам ад Мінкульта тлумачыў, што пры будаўніцтве знайшлі парушэнні і праект закрылі. Аднак пасля Мінкульт скараціў ахоўную зону са 120 да 50 метраў, і пабудовы не знеслі. Зянон Пазняк ацаніў такія паводзіны і само будаўніцтва як «Абразу нацыянальнага гонару і знішчэнне нацыянальнай святыні».

**Сёлета ў чэрвені сярод пабудоў «БульбашХола» адчынілі рэстаран. Грамадскія актывісты ў чарговы раз паднялі пратэст з гэтай нагоды.**

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Як працуе фонд сацабароны насельніцтва

МАЛАДЗЕЧНА

**Выплаты з бюджэту фонду суправаджаюць чалавека ўсё жыццё. Пачынаецца ўсё яшчэ да нараджэння, калі маці атрымлівае дапамогу па цяжарнасці і родах. Заканчваецца пасля смерці, калі сваякам памерлага выплачваюць дапамогу на пахаванне.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Калектыў Маладзечанскага райаддзела фонду сацыяльнай абароны насельніцтва.

Практычна ўсе жыхары Маладзечанскага раёна, у тым ліку 39,2 тысячы пенсіянераў, карыстаюцца сродкамі фонду.

Летась па выніках года па Маладзечанскім раёне ў бюджэт фонду пералічылі 112,2 мільярда рублёў страхавых узносаў. З іх 1,7 мільярда рублёў пералічылі фізічныя асобы. У арганізацыях раёна на выплату ўсіх відаў дапамог за год накіравалі больш за 22,9 мільярда рублёў. Выдаткі на выплату пенсій і дапамог па раёне склалі 150,3 мільярда рублёў.

**У мінулым годзе раён быў забяспечаны ўласнымі сродкамі на выплату пенсій і дапамог на 59,3%. Гэта значыць, што ён датацыйны.**

### Штогод 2000 рахункаў

Праца па прыёме, апрацоўцы і захоўванні дадзеных персаніфікаванага ўліку велізарная і патрабуе сур'ёзнага стаўлення з боку плацельшчыкаў фонду. Штогод у раённым аддзеле адкрываюць больш за 2000 новых індывідуальных асабовых рахункаў.

**Усяго на сёння па раёне адкрылі і апрацавалі 94808 індывідуальных асабовых рахункаў. Штодня інспектары кантралююць іх карэктнасць.**

Права на выплаты па дзяржаўным сацстрахаванні залежыць ад таго, ці плацяць унёскі на адпаведныя страхавыя выпадкі працадаўцы за грамадзян і самі грамадзяне. Калі ўнёскі несвоечасовыя ці іх увогуле няма, атрымаць выплату са сродкаў дзяржаўнага сацыяльнага страхавання цяжка, а часам немагчыма.

Таму работнікі органаў фонду кантралююць пералічэнне ўнёскаў, правільнасць выкарыстання сродкаў дзяржаўнага сацыяльнага страхавання, прымаюць меры да парушальнікаў.

**1 ліпеня фонд сацыяльнай абароны насельніцтва адзначыў 25 год.**

### Адкуль бяруцца пенсіі і дапамогі

Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва створаны 1 ліпеня 1993 года, калі рэарганізавалі пенсійны фонд і фонд сацыяльнага страхавання. Бюджэт дзяржаўнага пазабюджэтнага фонду сацыяльнай абароны насельніцтва з'яўляецца матэрыяльнай базай сацыяльнай палітыкі дзяржавы.

Сістэма дзяржаўнага сацыяльнага страхавання грунтуецца на агульнапрынятых у сусветнай практыцы прынцыпах усеагульнасці, абавязковасці, гарантаванасці і незалежнасці ад формаў уласнасці. І працуючыя, і працадаўцы павінны ўдзельнічаць у фарміраванні дзяржаўных пазабюджэтных фондаў сацыяльнага страхавання. А сродкі размяркоўваюцца ад працаздольных да непрацаздольных, ад працуючых да непрацуючых.

Гэта гарантуе пенсіі, дапамогі і іншыя выплаты.

Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльнай абароны – гэта орган дзяржаўнага кіравання сродкамі сацыяльнага страхавання. Мы збіраем абавязковыя страхавыя ўнёскі, унёскі на прафесійнае пенсійнае страхаванне. У поўным аб'ёме фінансуем выплаты працоўных і прафесійных пенсій і дапамог, мерапрыемствы па забеспячэнні занятасці насельніцтва, выдаткі на санаторна-курортнае лячэнне і аздараўленне. Арганізуем і вядзём персаніфікаваны ўлік звестак аб застрахаваных асобах, забяспечваем іх канфідэнцыяльнасць і захаванасць.

### Віншуем работнікаў з прафесійным святам

Работнікі органаў фонду не сутыкаюцца непасрэдна з атрымальнікамі выплат і рэдка чуюць словы падзякі. Яны выконваюць незаўважную, але такую складаную і патрэбную працу. Збіраюць сродкі і звесткі для забеспячэння пенсій, дапамог і іншых выплат. Мы выконваем высакародную і адказную місію – з'яўляемся апорай для тых, хто больш за ўсё мае патрэбу ў дапамозе і падтрымцы, у сацыяльнай абароне.

У сувязі з 25-годдзем фонду дзякую ўсяму калектыву Маладзечанскага раённага аддзела за працу і высокі прафесіяналізм.

Больш за 20 гадоў добрасумленна працуюць у фондзе намеснікі начальніка Маладзечанскага райаддзела **Таццяна Крыштапян** і **Таццяна Буцько**, больш за 10 гадоў – інспектары **Жанна Лагутка**, **Вольга Крываногава**, **Мая Марцьянава**, **Таццяна Сцепаненка**, **Тамара Святоха**.

Віншую нашых ветэранаў, якія шмат гадоў добрасумленна адпрацавалі і сышлі на заслужаны адпачынак, – **Веру Завадскую**, **Камілу Фарманскую**, **Святлану Страшынскую**, **Яўгенію Крашчанку**, **Таццяну Космач**, **Тамару Жалевіч**, **Валянціну Петрусевіч**, **Галіну Бажко**, **Рэгіну Лазоўскую**.

Хай дабро, якое вы дорыце людзям, вернецца да вас у сто разоў мацнейшым!

**Марына СЕВЕРЫНА,**
**начальнік Маладзечанскага райаддзела Мінаблупраўлення фонду сацыяльнай абароны насельніцтва.**

## Падвялі вынікі міні-праекта ў межах кампаніі «Павестка-50»

ВАЛОЖЫН

У пятніцу, 29 чэрвеня, у Валожыне падвялі вынікі праекта «Распаўсюджванне і прымяненне ідэй Канвенцыі». У чым заключалася сутнасць праекта і якіх вынікаў удалося дасягнуць за восем месяцаў працы? Пра гэта гаварылі на прэс-ланчы ў рамкам кампаніі «Павестка-50», які арганізоўваў офіс па правах людзей з інваліднасцю.

Валожын даўно лічыцца адным з самых "прасунутых" беларускіх гарадоў у пытаннях стварэння інклюзіўнага грамадства. Як адзначыў у сваім вітальным слове дырэктар офіса па правах людзей з інваліднасцю **Сяргей Драздоўскі**, у Валожыне ўдалося назапасіць сілы і кампетэнцыі для плённай працы. У горад нават прыязджаюць за абменам досведам.

Па словах галоўнага каардынатара праекта «Распаўсюджванне і прымяненне ідэй Канвенцыі» **Ларысы Шчарбачэвіч**, за час працы міні-праекта яго ўдзельнікамі сталі каля 790 чалавек. Гэта людзі з інваліднасцю і іх блізкія, а таксама сацыяльныя работнікі і мясцовыя ўлады.

У рамках праекта правялі сем выязных лекцый, у час якіх удзельнікам распавядалі аб асноўных палажэннях Канвенцыі. Акрамя кансультацый правялі трэнінгі асабістага росту, восем семінараў па адвакатаванні і семінары «Роўны роўнаму».

– Дзякуючы праекту мы змаглі выявіць праблемы, з якім сутыкаюцца жыхары Валожынскага раёна з інваліднасцю. А таксама распавялі ім аб існуючых магчымасцях, праграмах, – распавядае Ларыса Шчарбачэвіч.

– Праекту «Распаўсюджванне і прымяненне ідэй Канвенцыі» ўдалося ўхапіць сутнасць Канвенцыі – уключэнне людзей з інваліднасцю ў працэс прыняцця рашэнняў. Быў абраны ўдалы аспект – інфармаванне жыхароў Валожына, змяненне стаўлення да людзей з інваліднасцю. А гэта самы складаны аспект у рэалізацыі Канвенцыі, – распавёў сваё меркаванне аб праекце Сяргей Драздоўскі.

Міні-праект «Распаўсюджванне і прымяненне ідэй Канвенцыі» праходзіў у рамках вялікай кампаніі «Павестка-50», якая рэалізуецца пры фінансавай падтрымцы ЕС.

**Офіс па правах людзей з інваліднасцю.**



Фота vk.com/nastialoveliverpool

Ашмянцы атакуюць вароты саперніка.

## «Смаргонь» прайграла 0:3

**СМАРГОНЬ, МАЛАДЗЕЧНА**

У чэмпіянаце Беларусі па футболе ў першай лізе футбольны клуб «Смаргонь» прымаў бабруйскую «Белшыну». Сапернікі трымаюцца ў тройцы лідараў, і дастойнага супраціўлення смаргонцы ім не аказалі. Прайгралі 0:3.

«Чысць» гэты тур прапускала. Але згуляла дома таварыскі матч з камандай другой лігі «Энергетык-БДАТУ». Каманда з Маладзечанскага раёна прайграла 2:3. Галы ў чысцінцаў забілі **Вячаслаў Гайдукевіч** і **Ілья Лухвіч**.

«Смаргонь» з 14-ю ачкамі апусцілася на дзясятае месца, «Чысць» займае апошняе.

## Маладзечанцы дома не забілі і не прапусцілі

**АШМЯНЫ, МАЛАДЗЕЧНА**

Адбыліся гульні 12 тура чэмпіянату Беларусі па футболе ў другой лізе.

«Маладзечна-ДЮСШ-4» прымала 7 ліпеня «СМІаўтатранс» са Смалявіцкага раёна. Матч завяршыўся безгалявой нічыёй: 0:0. Лепшым гульцом матча ў складзе маладзечанцаў заўзятары выбралі **Сямёна Хаткевіча**.

«Ашмяны-БДУФК» у гасцях разграмілі яшчэ аднаго аўтсайдара – «Бумпрам» з Гомеля 2:7. Хет-трык аформіў **Скварчэўскі**, па адным голе забілі **Сімончык**, **Шпачэнка**, **Купнеўскі**, **Велісевіч**. Асабліва прыгожым атрымаўся гол Дзмітрыя Велісевіча – ударам са штрафной ён накіраваў мяч над сценкай у вароты.

«Ашмяны-БДУФК» ідуць другімі. Маладзечанцы перамясціліся на перадапошняе месца: у «Маладзечна-ДЮСШ-4» і «Бумпрама» з Гомеля па пяць ачкоў.

Дзмітрыя Купнеўскі з «Ашмянаў» упэўнена лідзіруе ў спісе бамбардзіраў чэмпіянату – забіў ён 14 галоў.

## «Вілія» саступіла дома

**ВІЛЕЙКА**

«Вілія» ў чэмпіянаце Мінскай вобласці па футболе дома прымала «Лагойск». Матч прайшоў 8 ліпеня. Вілейчане мінімальна саступілі 0:1.

Пасля сямі тураў «Вілія» ідзе пятай. Каманда набрала 12 ачкоў.

## Пагранічнікі едуць у веладазор

**СМАРГОНЬ**

Ад 12 да 14 ліпеня Смаргонская пагранічная група праводзіць «Веладазор органаў пагранічнай службы». Удзельнікі велапрабегу пераадольваюць больш за 230 кіламетраў, наведваюць падраздзяленні і памятныя мясціны. Праходзіць ён на ўчастку адказнасці Смаргонскай пагранічнай групы.

Праводзяць «Веладазор» у мэтах прапаганды здаровага ладу жыцця, ушанавання герояў, загінулых у Вялікай Айчыннай вайне, а таксама ў рамках святкавання 100-годдзя органаў пагранічнай службы. Ахвотныя могуць прыняць удзел у велапрабегу ў любым пункце маршруту, паведамляе суполка Смаргонскай пагранічнай групы «Укантакце».

**Аддзел інфармацыі.**

| | Team | M | W | D | L | G | +/– | Pts |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Колас (Чэрвень) | 7 | 5 | 1 | 1 | 17–4 | 13 | 16 |
| 2 | Гарняк (Салігорск) | 6 | 5 | 0 | 1 | 28–1 | 27 | 15 |
| 3 | Старыя Дарогі | 7 | 4 | 1 | 2 | 14–8 | 6 | 13 |
| 4 | Лівадыя-Юні (Дзяржынск) | 7 | 4 | 1 | 2 | 16–10 | 6 | 13 |
| 5 | Вілія (Вілейка) | 7 | 4 | 0 | 3 | 12–13 | –1 | 12 |
| 6 | Фалько (Дзяржынскі р-н) | 6 | 3 | 1 | 2 | 17–8 | 9 | 10 |
| 7 | Лагойск | 7 | 3 | 0 | 4 | 7–18 | –11 | 9 |
| 8 | Крупкі-ДРБУ-164 | 7 | 2 | 1 | 4 | 5–14 | –9 | 7 |
| 9 | Нясвіж | 7 | 1 | 1 | 5 | 4–11 | –7 | 4 |
| 10 | Беразіно | 7 | 0 | 0 | 7 | 11–44 | –33 | 0 |

Табліца з суполкі vk.com/footballonlinemo.

Турнірная табліца чэмпіянату вобласці.



Фота забяспечанае Аленай БЕЛАВУС.

Алена Манулік на кані Густаве заняла першае месца ў заключным конкурсе.

# Па перамогу паехалі вярхом

**МАЛАДЗЕЧНА**

### Конны турнір па канкуры прайшоў у Палачанах 6-8 ліпеня.

Адкрытыя рэспубліканскія спаборніцтвы па пераадоленні перашкод імя Уладзіміра Пятрова праводзяцца другі год запар. Яны збіраюць вялікую колькасць спартыўных пар з усёй краіны. Сёлета іх было заяўлена больш за 70. Удзельнікі з Мінскай, Віцебскай, Гродзенскай і Брэсцкай абласцей паспрабавалі свае сілы ў турніры і пазмагаліся за ганаровыя месцы.

– Мы склалі правілы так, каб усе, ад малога да вялікага, змаглі паўдзельнічаць, плюс аматары – людзі, якія трэніруюцца непрафесійна, – распавяла інструктар па верхавой яздзе і адна з арганізатараў спаборніцтваў **Алена Белавус**.

Каб далучыцца да турніру, удзельнікаў прасілі прынесці даведку аб стане здароўя і страхоўку, запоўніць заяўку ад арганізацыі, што адпраўляе людзей і жывёл. Коні павінны былі мець ветэрынарнае пасведчанне і пашпарт.

### За турнірам сачылі ў прамым эфіры

Спартыўныя пары праходзілі розныя маршруты – ад 60 да 130 см. Акрамя вышыні, яны адрозніваліся колькасцю бар'ераў, складанасцю і хуткасцю праходжання паваротаў.

На тых маршрутах, што прасцей, ехалі дзеці да 16 гадоў, аматары і спартсмены на маладых і нявопытных конях. Самаму малодшаму ўдзельніку, **Аляксандру Коўшыку**, споўнілася дзесяць гадоў. Вялікія вышыні скаралі майстры спорту і кандыдаты ў іх.

У маршруце Гран-пры на вышыні 130 см перамагла **Алена Манулік** на кані Густаве. Абсалютным чэмпіёнам турніру па суме трох дзён стаў **Андрэй Сцепаненка** на Флорысе.

За ўдзел коннікі атрымалі кубкі, медалі, граматы і грашовыя прызы. Колькасць пераможных месцаў стала прыемнай асаблівасцю – іх было не тры, як звычайна, а цэлых пяць.

Не толькі гледачы на трыбунах, але і ўсе неабыякавыя да коннага спорту людзі мелі магчымасць назіраць за турнірам. Праз прамыя трансляцыі ў сацыяльных сетках можна было пабачыць, як пары пераадольваюць перашкоды.

### Алімпійскія маршруты ў Палачанах

– Канкур – адзін з алімпійскіх відаў коннага спорту. Гэта самая масавая дысцыпліна ў нашай краіне. Шмат аматараў і дзяцей займаецца менавіта канкурам – гэта даступна ў любым конным клубе, а яшчэ вельмі цікава, эмацыйна, відовішчна.

– У конным спорце выступае пара – чалавек і конь. На працягу доўгіх і ўпартых трэніровак наладжваецца сувязь і ўмацоўваецца кантакт. Яны разумеюць адзін аднаго з самага малога, не прыкметнага воку, руху. І калі гармонія ў адносінах знойдзеная, можна ўдасканальваць спартыўныя навыкі, – падзялілася інструктар.

**Турнір названы ў гонар выдатнага трэнера, да нядаўняга часу загадчыка племяннной каняфермы Уладзіміра Пятрова. Ён выхаваў шмат спартсменаў, вядомых сваімі вынікамі далёка за межамі краіны.**

Калісьці трэнер прывозіў выдатных жарабцоў з розных гаспадарак для паляпшэння якасці нашчадкаў.

**Таццяна КАСЬЯН.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Вялікае няшчасце з цяжкімі вынікамі.
2. Кусты, зараснікі дробных маладых дрэўцаў.
4. З гэтага дрэва звычайна робяць піяніна і скрыпкі.
6. Аўрум.
9. Тое, што хаваецца, адрываецца ад іншых, што вядома не ўсім; сакрэт.
11. «Якое лета, такое і ...».
13. Яе сталіца – Брацілава.
15. Вялікае, звычайна цёмнае воблака, якое прыносіць дождж, град, снег.
16. Забарона на ўжыванне пэўных слоў, абумоўленая сацыяльна-палітычнымі, гістарычнымі, культурнымі, этычнымі або эмацыянальнымі фактарамі.
19. Іх у Расіі было 17.
21. Самая сонечная фігура ў геаметрыі.
22. Упершыню гэты горад Гродзенскай вобласці ўзгадваецца пасля смерці Гедыміна. У 1385 годзе тэўтонскія рыцары спрабавалі яго захапіць у пачатку паходу на Ягайлу. Горад яны разбурылі, але яго хутка аднавілі.
23. Пярэдняя частка ніжняй сківіцы.
27. Закрытая пляцоўка пасажырскага чыгуначнага вагона.
28. Яго называюць вадзяной свіннёй.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

13. Мука з ачышчанага падпражанага аўса і страва з такой мукі на малацэ і масле.
5. Невялікі сплюшчаны шарык з прасаванага лекавага парашку.
7. Ён дзеліцца на 60 мінут.
8. Поліўка.
10. Здольнасць, уменне перадольваць страх; мужнасць, адвага.
12. Галоўны закон гэтай навукі, названы ў 1960 годзе, – «усё звязанае з усім».
13. Калі вы бачыце падарожнік, значыць, яна блізка.
14. Канец лета.
15. Сіплы гук, які чуецца пры цяжкім дыханні, здаўленай гаворцы.
17. Аранжава-чырвоны салодкі, даўкага смаку плод.
18. Янка Купала: «Соладка ўлетку ў дзень ройны Ў зелені, ў кветках купацца, З ... гуляць неспакойным, З сонцам гуляць, цалавацца!»
20. Асобнае памяшканне, аддзяленне ў вагоне для некалькіх пасажыраў.
23. Груз, які забяспечвае ўстойлівасць і асадку карабля, а таксама груз для рэгулявання вышыні палёту аэрастата.
24. Ваенна-палітычны саюз паміж Расіяй, Англіяй і Францыяй, які склаўся напярэдадні Першай сусветнай вайны.
25. З лацінскай мовы назва гэтага інструмента перакладаецца як «подых».
26. Малады спартсмен, дасягненні якога ацэньваюцца па асобаму ўзроставаму разраду.
29. Спектакль, збор з якога ідзе на карысць аднаго з удзельнікаў.

## Адказы на крыжаванку з №27

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Шаблон. 3. Шапка. 4. Рэфрэн. 7. Дзень. 9. Кухня. 10. Дабро. 13. Рэкорд. 14. Дазвол. 16. Шкода. 17. Ёлкі. 19. Кумпяк. 24. Кандуктар. 25. Звяруга. 27. Спяць.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Дазор. 5. Халоднае. 6. Рэшта. 8. Шахта. 10. Дальтонікі. 11. Рыбак. 12. Крыху. 15. Дакумент. 18. Землятрус. 20. Людвінова. 21. Вожык. 22. Шаман. 23. Пеле. 26. Дэкарт. 27. Светлячкі. 28. Куры. 29. Крэсла.

## ● ГАРАСКОП 13-19 ЛІПЕНЯ



**АВЕН.** Вам неабходна разабрацца ў сабе і сваіх пачуццях, а ўжо потым спрабаваць улазіць у чужое жыццё і даваць парады. Удзяліце час сваёй сям'і, і ўсё пойдзе на лад.



**ЦЯЛЕЦ.** Для захавання свайго ўнутранага свету ў цэласці і захаванасці вам неабходна выбудаваць магутную ахоўную сцяну. Праявіце мудрасць – успрымайце ўсе падзеі, як урокі жыцця, якія неабходна вывучыць, асвоіць і выкарыстоўваць у далейшым. Бо не толькі ў радасці пазнаецца наш сапраўдны свет.



**БЛІЗНЯТЫ.** Адносіны ў сям'і значна ўмацуюцца, вы станеце лепш разумець адзін аднаго. У многіх сямейных пар можа паўстаць жаданне завесці дзяцей.



**РАК.** Надыходзіць перыяд фінансавага развіцця. Вы зрабілі шмат і перад вамі адкрываюцца новыя перспектывы. Але існуе небяспека не адстаяць сваіх пазіцый. Праяўляйце цвёрдасць і рашучасць і не пускайце ўсё на самацёк.



**ЛЕЎ.** Калі штосьці здарылася такое, што нельга паправіць, то гэты час трэба проста перажыць.



**ДЗЕВА.** Вам трэба будзе мець справу з законам. Верагодна, вы здзейснілі нейкую правіну ў мінулым, і цяпер настаў час несці за гэта адказнасць.



**ШАЛІ.** Дапамагайце тым, хто просіць вас. Такі падыход можа здавацца абсалютна бессэнсоўным, але менавіта дапамагаючы іншым, вы зможаце здабыць мір і шчасце, гармонію ва ўласнай душы. Дапамагаючы іншым, будзьце сапраўды добрыя, не ўзгадвайце былых крыўдаў і не судзіце людзей. Вам гэта залічыцца.



**СКАРПІЁН.** Вы будзеце кідацца з крайнасці ў крайнасць, што можа не зусім спрыяльна адбіцца на адносінах з навакольнымі. Справа нават не ў тым, што яны будуць не разумець вас, а ў тым, што вы самі не зможаце разабрацца ў сабе і зразумець, што ж вам трэба. Спроба сумясціць у сабе пачуццёвы пачатак, моцныя эмоцыі і тонкую натуру разам з гнуткім розумам, лагічнасцю мыслення і халодным разлікам – задача не з лёгкіх. Але вы вырашыце, што ж на самой справе ваша, а што фальшывае.



**СТРАЛЕЦ.** Вас можа адолець зайздрасць да чужога поспеху. Спроба разжыцца за чужы кошт ніяк не ўпрыгожыць вас, хоць з вашага пункту погляду можа выглядаць вельмі бяскрыўдна і нават справядліва. Паспрабуйце знайсці сацыяльна прымальны спосаб палепшыць сваё фінансавае становішча і не шкодзіць пры гэтым іншым людзям.



**КАЗЯРОГ.** Жыццё не такое дрэннае, як гэта здаецца. Хутка вас чакаюць перамены, у першую чаргу яны закрануць вашы погляды і стаўленне да навакольнага свету. Магчыма, прыйдзецца ўсвядоміць тыя факты, якія вы нават не хацелі прызнаваць.



**ВАДАЛЕЙ.** Вы можаце ганарыцца сабой. Вам атрымаецца паказаць сябе з лепшага боку. Вашы дасягненні і заслугі адкрываюць і новыя перспектывы, але, на жаль, вы занадта летуценныя і можаце прыдумаць сабе значна больш, чым ёсць на самой справе, і за гэтым воблакам з мрояў не ўбачыць свайго шляху.



**РЫБЫ.** Вам прыйдзецца добра папрацаваць, але ўзнагарода будзе дастойная. Вы апынецеся літаральна ля рога багацця і зможаце значна палепшыць камфортнасць свайго жыцця, а заадно набыць і душэўны спакой.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | | | | 5 | 1 | | 9 | |
| | 6 | 2 | 7 | | | | | |
| | | | 2 | 4 | | | 7 | |
| | | | 8 | 2 | 6 | | | 4 |
| 6 | | 9 | | 7 | | 3 | | |
| 2 | 8 | | | 3 | | | | |
| | | | 5 | 1 | 2 | | | |
| | | | | 9 | | | | 5 |
| 4 | | | 3 | | | 8 | | 1 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

● НАДВОР'Е

14 ліпеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +20 / +23 | | +16 / +23 | | +17 / +25 | | +20 / +25 | |
| | 737 | ↗ 2 | 735 | ↘ 1 | 734 | ↖ 3 | 736 | ↖ 6 |
| Вільня | +18 / +21 | | +15 / +22 | | +19 / +21 | | +18 / +23 | |
| | 743 | ↗ 2 | 742 | ↗ 1 | 742 | ↙ 5 | 743 | ↙ 6 |

| | | |
|---|---|---|
| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 4.56
Захад 21.40
Даўжыня дня 16.44

Усход 06.29
Захад 22:38
Квадра 1




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература +6,9°С у 1968 годзе
Максімальная тэмпература +31,3°С у 1999 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 23,1 мм у 2008 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень

● Забівалі запланавана, жорстка, з карысці. Ахвяру загарнулі ў плёнку і пераматалі скотчам. Вечарам забойцы весяліліся. Адзін – на дні нараджэння сябрука, другі – на вечары сустрэчы з аднакласнікамі. А тым часам цела Андрэя Касяка астывала дзесьці пад Мінскам. Яго не могуць знайсці і сёння, амаль праз два гады. Што напісалі бацькі забітага Прэзідэнту?

## Прымай сонечныя ванны з «Рэгіянальнай газетай»!



### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**

✓ **праз паштальёна**

✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 79 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 11 рублёў 22 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку,** калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

# Квас, феерверк і падарункі. Запрашаюць на экалагічны юшка-фэст

ВІЛЕЙКА

**«Юшка-фэст-2018» пройдзе 14 ліпеня на Вілейшчыне. Галоўнай пляцоўкай свята стане Вілейскае вадасховішча.**

– Гэта экалагічны фестываль. Менш пластыкавага посуду, раздзельны збор смецця на тэрыторыі фестывалю. Адна з «фішак» – экалагічныя падвор'і, якія будуць прадстаўляць 11 сельвыканкамаў раёна. Падвор'і паўдзельнічаюць у конкурсе, – расказала арганізатар фестывалю старшыня грамадскага аб'яднання «ЗОВіК» **Таццяна Цітуленка.**

Гасцей чакае шмат конкурсаў. Усіх, хто прынясе 100 пластыкавых накрывак з бутэлек, адзначаць прызамі. Мужчыны атрымаюць шанец пазмагацца ў конкурсе «Дзядзька Барада».

Хто прыйдзе са сваім кубкам, зможа бясплатна частавацца квасам. Падарункі атрымаюць госці, якія прыедуць на фестываль на ровары, наведнікі ў касцюмах велапедыстаў.

– Самая вялікая праблема ў нас з выкідамі вуглякіслага газу, а гэта найперш аўтамабільны транспарт. Сёння мы купляем, грошы трацім, а заўтра лечымся, – лічыць Таццяна.

Наведнікаў фестывалю чакаюць майстар-класы па прыгатаванні юшкі, выступленні музыкантаў і водная феерыя з удзельнікамі Вілейскага РАНС. Пройдзе фестываль фарбаў холі, якія можна набыць на месцы. Будуць працаваць гульнявыя і спартыўныя пляцоўкі, дзіцячыя атракцыёны, выставы-продажы.

Салют на фэсце прагучыць у 22:30. Людзей будуць развозіць дадатковыя гарадскія аўтобусы.

**Таццяна КАСЬЯН.**



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Якімі былі вашы першыя дзіцячыя ўспаміны?



**Кірыл Гаўрыловіч, студэнт:**

– Памятаю, як не здаваў дзядуляў бабулям за тое, што яны выпілі, і за гэта атрымліваў ці грошы, ці нешта смачнае.



**Валерый Бабкін, акцёр:**

– Адным з самых першых і яскравых успамінаў лічу зімні дзень, калі катаўся ў парку з горкі і ўрэзаўся ў мужчыну з дзіцем на руках. Мужчына ўпаў на снег, а дзіця – мне ў санкі, і мы з ім паехалі далей.



**Кацярына Троцкая, абітурыентка:**

– Мае першыя ўспаміны звязаныя з маімі сябрамі. У той час я саромелася знаёміцца. Ужо 11 гадоў, як мы лепшыя сябры. Часта ўспамінаем тыя часы, калі пазнаёміліся, як гулялі ў «казакоў-разбойнікаў», каталіся на роварах і нават цяпер з лёгкай настальгіяй любім пракаціцца па месцах дзяцінства.



**Аляксандр Шалімаў, пенсіянер:**

– Самыя яскравыя – гэта калі мне было шэсць, быў 1953 год, будаваўся кінатэатр «Радзіма». Добра памятаю смерць Сталіна. Я памятаю, як гудзелі машыны, паравозы. Вось гэта і ёсць мае ўспаміны з дзяцінства.



**Дыяна Пугачова, студэнтка:**

– Першы ўспамін, што прыходзіць у галаву, – пераезд нашай сям'і. Нашым новым домам стаў інтэрнат, які знаходзіўся на тэрыторыі вайсковай часці. Высокая агароджа, людзі ў форме, краты на вокнах. Першае маё пытанне: «Матуля, мы тут будзем жыць, ты нічога не пераблытала?» Цяпер усё гэта ўспамінаю з цеплынёй у душы і ўсмешкай на твары.



**Мікалай Дамаеў, маркетолаг:**

– Калі гаварыць пра першыя ўспаміны, то гэта, бадай, Вільня. Мне толькі споўнілася тры гады. Седзячы на дыване з сястрой, упершыню глядзеў «Спокойной ночи, малыши». Але маці гаворыць, што я не магу памятаць той час.



**Святлана Кіслая, студэнтка:**

– Самыя лепшыя ўспаміны з дзяцінства – гэта паездкі ў вёску да бабуляў. Утульныя домікі, пах скошанай травы і малака. Зранку прачынаешся і чуеш, як бабулі на кухні пякуць блінкі. Ячшэ прыемна ўспамінаць, як выбірала семачкі са сланечніку.

**Падрыхтавала Марыя КРУПСКАЯ.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№28 (1211) 13.07.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 382. Падпісана ў друк у 9.00 12.07.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by .**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.